# Голас Радзімы

№ 46 (2032)
12 лістапада 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







Калі гэты нумар «Голасу Радзімы» дойдзе да зарубежнага чытача, наша свята — 70-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі — адшуміць шэлестам сцягоў, адзвініць песнямі і меддзю аркестраў, адцвіце мноствам барваў, сярод якіх заўсёды пераважае чырвоны колер. Зноў мы засяродзімся ў буднях клопатаў, у пошуку шляхоў удасканалення нашага дзяржаўнага і грамадска-палітычнага жыцця, больш дынамічнага развіцця эканомікі краіны. Але гэты Кастрычнік, гэты юбілей яшчэ доўга будзе займаць нашы думкі, ды, зрэшты, і думку сусветнай грамадскасці. Шчыры, аб'ектыўны, праўдзівы аналіз таго шляху, які прайшоў Савецкі Саюз, таго становішча спраў, якое склалася цяпер у нашай краіне, ва ўсім свеце, зроблены ў дакладзе М. С. Гарбачова на ўрачыстым пасяджэнні ў Маскве, абмен думк[illegible] меркаваннямі на сустрэчы дэлегацый зарубежных парт[illegible] арганізацый, якія прымалі ўдзел у святкаванні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка, даюць магчымасць нам, савецкім людзям, зразумець глыбей праблемы і свае, і іншых народаў, а нашым замежным сябрам, саратнікам па барацьбе за лепшую будучыню Зямлі, кожнаму, хто зацікаўлены ў развіцці і супрацоўніцтве паміж народамі, спасцігнуць задуманае намі, што ва ўсім свеце вядома сёння як «перастройка», спасцігнуць новае мысленне ў падыходзе да вырашэння міжнародных праблем.

Здаецца, ён быў такі, як і папярэднія, гэты Кастрычнік. Мы адзначылі яго ўрачыстымі сходамі, ваеннымі парадамі і дэманстрацыямі ў сталіцах рэспублік нашага Саюза, народнымі гуляннямі ў гарадах і вёсках. І ўсё ж сёлетні юбілей Рэвалюцыі адрозніваўся ад іншых. Перш за ўсё непаўна тым, што кожнае слова з яго нагоды не было пустым фанфарным гукам, а ўзважанае і прадуманае. За кожным словам лёгка чытаўся просты і змястоўны сэнс: мы не адракаемся ад сваіх ідэалаў, дзеля іх дасягнення мы хочам удасканаліць сацыялізм, выкарыстаць усе яго магчымасці.

НА ЗДЫМКАХ: Мінск, 7 лістапада 1987 года. Ваенны парад і дэманстрацыя працоўных беларускай сталіцы.

Фота С. КРЫЦКАГА.





# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

## Даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА

### на сумесным урачыстым пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, прысвечаным 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі

Дарагія таварышы!

Паважаныя зарубежныя госці!

Сем дзесяцігоддзяў аддзяляюць нас ад незабыўных дзён кастрычніка 1917 года. Тых легендарных дзён, якія пачалі свой адлік новай эпохі грамадскага прагрэсу, сапраўднай чалавечай гісторыі. Кастрычнік — сапраўды «зорны час» чалавецтва, яго світальная зара. Кастрычніцкая рэвалюцыя — гэта рэвалюцыя народа і для народа, для чалавека, яго вызвалення і развіцця.

Сем дзесяцігоддзяў — зусім невялікі адрэзак часу ў шматвяковым узыходжанні сусветнай цывілізацыі, але па маштабах здзяйсненняў гісторыя яшчэ не ведала такога перыяду, які прайшла наша краіна пасля перамогі Вялікага Кастрычніка. І няма вышэйшага гонару, чым ісці шляхам першапраходцаў, аддаваць усе сілы, энергію, веды, здольнасці ў імя перамогі ідэй і мэт Кастрычніка!

**Юбілей — гэта момант гордасці.** Гордасці здзейсненым. Найцяжэйшыя выпрабаванні выпалі на нашу долю. І мы вытрымалі іх з гонарам. Не проста вытрымалі. Вырвалі краіну з разрухі і адсталасці, зрабілі яе магутнай дзяржавай, пераўтварылі жыццё, непазнавальна змянілі духоўны свет чалавека. У надзвычай жорсткіх схватках, якія толькі бачыў XX век, адстаялі права на ўласны уклад жыцця, абаранілі сваю будучыню. Мы з поўнай падставай ганарымся і тым, што наша рэвалюцыя, праца і барацьба працягваюць аказваць найглыбейшае ўздзеянне на ўсе бакі сусветнага развіцця — палітыку і эканоміку, сацыяльную сферу і свядомасць сучаснікаў.

**Юбілей — гэта момант памяці.** Аб тых мільёнах людзей, кожны з якіх унёс уклад у нашы агульныя сацыялістычныя заваёвы. Аб тых, хто варыў сталь, сеяў збожжа, вучыў дзяцей, рухаў наперад навуку і тэхніку, дасягаў вышынь мастацтва. Журботнай памяці аб тых, хто, абараняючы Радзіму, загінуў у баі, цаной свайго жыцця даў магчымасць грамадству ісці наперад. Незабыўнай памяці аб пражытым, пройдзеным, таму што ўсё гэта і стварыла дзень сённяшні.

**Юбілей — гэта момант роздуму.** Аб тым, як няпроста і неадназначна складваліся часам нашы справы і лёсы. Было ўсякае — і гераічнае, і трагічнае, вялікія перамогі і горкія няўдачы. Мы разважаем аб сямідзесяці гадах напружанага стварэння з пазіцый народа, гатовага мабілізаваць усе свае сілы, увесь велізарны патэнцыял сацыялізму для рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця.

**Юбілей — гэта і погляд у будучыню.** Нашы дасягненні грандыёзныя, важкія і значныя. Яны з'яўляюцца трывалым фундаментам, асновай для новых здзяйсненняў, для далейшага развіцця грамадства. Іменна ў развіцці сацыялізму, прадаўжэнні ідэй і практыкі ленінізму і Кастрычніка мы бачым сутнасць нашых сённяшніх спраў і клопатаў, сваю найпершую задачу і маральны абавязак. А гэта дыктуе неабходнасць сур'ёзнага і грунтоўнага аналізу гістарычнага значэння Кастрычніка, усяго таго, што зроблена за сем паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў.

## I. Шлях Кастрычніка — шлях першапраходцаў

Таварышы! Наш шлях першапраходцаў — велізарны і складаны. Яго кароткім аналізам не ахопіш, не абдымеш. І цяжкасць матэрыяльнай і маральнай спадчыны старога свету, першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, інтэрвенцыі. І навізна пераўтварэнняў, звязаныя з імі надзеі людзей, тэмпы і маштабы пранікнення новага, непрывычнага, якія не пакідалі іншы раз часу, каб агледзецца, падумаць. І суб'ектыўныя фактары, што адыгрываюць асаблівую ролю ў перыяды рэвалюцыйных бур. І прасякнутыя максімалізмам рэвалюцыйныя пары, часам спрошчаныя, выраўнаваныя ўяўленні аб будучыні. І чыстае, нястрымнае імкненне барацьбітоў за новае жыццё зрабіць усё як мага хутчэй, лепш, больш справядліва.

Пройдзенае — яго гераізм і драматызм — не можа не хваляваць розумы сучаснікаў. Гісторыя ў нас адна, яна незваротная. І якія б эмоцыі яна ні выклікала — гэта наша гісторыя, яна дарагая нам. Сёння мы звяртаемся да кастрычніцкіх дзён, якія ўзрушылі свет, шукаем і знаходзім у іх і трывалую духоўную апору, і павучальныя ўрокі. Яшчэ і яшчэ раз пераконваемся ў правільнасці сацыялістычнага выбару, зробленага Кастрычнікам.

Да гэтага рубяжа вяла сама аб'ектыўная логіка гістарычнага прагрэсу чалавецтва. Кастрычніцкая рэвалюцыя — пры ўсёй супярэчлівасці і многаварыянтнасці шляхоў паступальнага руху цывілізацыі — з'явілася заканамерным вынікам развіцця ідэй і практыкі многавяковай барацьбы працоўных за свабоду і мір, за сацыяльную справядлівасць, супраць класавага, нацыянальнага і духоўнага прыгнёту.

Год 1917-ты паказаў, што выбар паміж сацыялізмам і капіталізмам — гэта галоўная сацыяльная альтэрнатыва нашай эпохі, што ў XX стагоддзі наперад ісці нельга, не ідучы да больш высокай формы сацыяльнай арганізацыі — да сацыялізму. Гэты фундаментальны ленінскі вывад сёння не менш актуальны, чым тады, калі ён быў зроблены. Такая заканамернасць паступальнага грамадскага развіцця.

Рэвалюцыя ў Расіі стала як бы вяршыняй вызваленчых імкненняў, жывым увасабленнем мар лепшых розумаў чалавецтва — ад вялікіх гуманістаў мінулага да пралетарскіх рэвалюцыянераў XIX і XX стагоддзяў.

Год 1917-ты ўвабраў у сябе энергію народнай барацьбы за самастойнае развіццё і незалежнасць прагрэсіўных нацыянальных рухаў, антыпрыгонніцкіх сялянскіх паўстанняў і войнаў, характэрных для нашай гісторыі. Ён увасобіў у сабе духоўныя пошукі асветнікаў XVIII стагоддзя, герояў і мучанікаў дзекабрысцкага руху, палымяных трыбунаў рэвалюцыйнай дэмакратыі, маральнае падзвіжніцтва вялікіх дзеячаў нашай культуры.

Для лёсаў нашай краіны рашаючае значэнне меў час, калі на зары XX стагоддзя Уладзімір Ільіч Ленін павёў за сабой цесна згуртаваную групу аднадумцаў па шляху стварэння ў Расіі пралетарскай партыі новага тыпу. Іменна гэта вялікая ленінская партыя ўзняла народ, лепшыя, сумленныя яго сілы на штурм старога свету.

У фундамент поспеху Кастрычніка краевугольныя камяні закладзены першай расійскай рэвалюцыяй 1905—1907 гадоў. Тут і горкія ўрокі Дзевятага студзеня, і адчайны гераізм снежаньскіх маскоўскіх барыкад, і подзвіг тысяч вядомых і невядомых барацьбітоў за свабоду, і нараджэнне першых рабочых Саветаў — прававобраза Савецкай улады.

Перамога Вялікага Кастрычніка вырастала і з заваёў Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, якая стала першай пераможнай народнай рэвалюцыяй эпохі імперыялізму. Пасля лютаўскай перамогі развіццё рэвалюцыі пайшло з небывалай хуткасцю. Галоўнымі яе дзеючымі асобамі былі рабочыя і сяляне, апранутыя ў салдацкія шынялі. Вясна 1917 года паказала моц агульнанароднага руху. Адначасова выявіліся і яго абмежаванасці, супярэчлівасць рэвалюцыйнай свядомасці на гэтым этапе, сіла гістарычнай інерцыі, у выніку якіх сыходзячыя са сцэны эксплуататарскія класы змаглі часова выкарыстаць плён народнай перамогі.

Лютаўская рэвалюцыя дала ў рукі Кастрычніка галоўную зброю — арганізацыю ўлады ў асобе адроджаных Саветаў. Люты — гэта першы вопыт рэальнага дэмакратызму, палітычнага выхавання мас на практыцы, які набываўся ў надзвычай складаных умовах двоеўладдзя. Люты унікальны і па сваёй магчымасці мірнага пераходу ўлады ў рукі працоўных, магчымасці, якая не стала, на жаль, у сілу гістарычных акалічнасцей рэчаіснасцю. Люты быў важнейшым гістарычным этапам на шляху да Кастрычніка.

У складаным перапляценні і процiборстве класавых сіл, якія ўдзельнічалі ў Лютаўскай рэвалюцыі, Ленін геніяльна разгледзеў наяўныя магчымасці перамогі рэвалюцыі сацыялістычнай. Красавіцкія тэзісы былі навуковым прадбачаннем і ўзорам рэвалюцыйнай праграмы дзеянняў у гэтых гістарычных умовах. Ленін паказаў не толькі логіку перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную, але і форму гэтага працэсу — праз Саветы, праз іх бальшавізацыю, сутнасць якой заключалася ў тым, каб дапамагчы народу, масам зразумець сэнс іх уласнай барацьбы і свядома вяршыць рэвалюцыю ў сваіх інтарэсах. Шлях ад лютага да кастрычніка — гэта час імклівых грамадскіх перамен, час хуткага палітычнага мужнення мас, кансалідацыі сіл рэвалюцыі і яе авангарда — ленінскай партыі.

У той перыяд — ад лютага да кастрычніка — з асаблівай сілай праявілася палітычнае майстэрства Леніна і яго саратнікаў, якія далі павучальны ўрок жывой дыялектыкі рэвалюцыйнай думкі і дзеяння. Кіраўніцтва партыі прадэманстравала здольнасць да калектыўнага творчага пошуку, адмаўлення ад стэрэатыпаў, ад лозунгаў, якія яшчэ ўчора, у іншай абстаноўцы, здаваліся бясспрэчнымі і адзіна магчымымі. Можна сказаць, што сам ход ленінскай думкі, уся дзейнасць бальшавікоў, якая вызначалася хуткай зменай форм і метадаў работы, гібкасцю і неардынарнасцю тактычных рашэнняў, палітычнай смеласцю, — найярчэйшы ўзор антыдагматычнага, сапраўды дыялектычнага, а значыць — новага мыслення. Так і толькі так мысляць і дзейнічаюць сапраўдныя марксісты-ленінцы, асабліва ў часы пераломныя, крытычныя, калі вырашаюцца лёсы рэвалюцыі і прагрэсу.

Вернемся да красавіка 1917-га: ленінская праграма павароту да сацыялістычнай рэвалюцыі здавалася многім—і сябрам, і ворагам — утопіяй, амаль ці не плёнам нястрымнай фантазіі. Але жыццё паказала, што толькі такая праграма магла стаць і на справе стала палітычнай асновай далейшага развіцця рэвалюцыі, а па сутнасці — асновай сацыяльнага выратавання, прадухілення нацыянальнай катастрофы.

Успомнім ліпеньскія дні 1917 года. З якім болем партыя была вымушана адмовіцца ад лозунга перадачы ўсёй улады Саветам. Але інакш зрабіць было нельга, таму што Саветы аказаліся на нейкі час у руках эсэраў і меншавікоў і бяссільнымі перад контррэвалюцыяй. І як чутка трымаў Ленін руку на пульсе рэвалюцыі, як геніяльна вызначыў пачатак новага адраджэння Саветаў, якія ў працэсе барацьбы набылі сапраўды народную сутнасць, што дазволіла ім стаць органамі пераможнага ўзброенага паўстання, а затым і палітычнай формай рабоча-сялянскай улады.

Усё гэта не проста старонкі летапісу вялікай рэвалюцыі. Гэта яшчэ і пастаянны напамінак нам, цяпер жывучым, аб высокім абавязку камуністаў заўсёды быць на вастрыі падзей, умець прымаць смелыя рашэнні, браць на сябе ўсю паўнату адказнасці за цяперашняе і будучае.

Кастрычніцкая рэвалюцыя з'явілася магутным парывам мільёнаў людзей, у якім аб'ядналіся карэнныя інтарэсы рабочага класа, векавечныя спадзяванні сялянства, прага міру салдат і матросаў, невынішчальная цяга народаў многанацыянальнай Расіі да свабоды і святла. У складаным перапляценні розных інтарэсаў партыя бальшавікоў змагла знайсці галоўнае, аб'яднаць супярэчлівыя тэндэнцыі і імкненні, накіраваць іх на вырашэнне асноўнага пытання рэвалюцыі — пытання аб уладзе. І ў першых жа сваіх дэкрэтах — аб міры і зямлі — дзяржава дыктатуры пралетарыяту справай адказала на патрабаванні часу, выказала глыбінныя інтарэсы не толькі рабочага класа, але і абсалютнай большасці народа.

І яшчэ аб адным важнейшым, прынцыповым уроку кастрычніцкіх дзён неабходна сёння напомніць. У наш час незвычайна актуальны ленінскі адказ на пытанне, якое задае жыццё, рэвалюцыйная рэчаіснасць, — гэта пытанне аб суадносінах тэарэтычнай «мадэлі» шляху да сацыялізму і рэальнай практыкі сацыялістычнага будаўніцтва. Марксізм-ленінізм як творчае вучэнне — не набор гатовых рэцэптаў і дактрынёрскіх прадпісанняў. Чужое вузкалобаму дагматызму марксісцка-ленінскае вучэнне забяспечвае актыўнае ўзаемадзеянне наватарскай тэарэтычнай думкі з практыкай, з самім ходам рэвалюцыйнай барацьбы. Надзвычай павучальны прыклад таму — Вялікі Кастрычнік.

Як вядома, многія нават буйныя дзеячы рабочага руху таго часу адмаўляліся бачыць у Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі заканамерную з'яву: яна, маўляў, адбылася «не па правілах», не ў адпаведнасці з існаваўшымі тэарэтычнымі поглядамі. Расійскі капіталізм, па іх уяўленнях, не стварыў да кастрычніка 1917 года ўсе неабходныя матэрыяльныя і культурныя прадпасылкі сацыялізму. Павучальна і карысна, думаецца, успомніць, як адказваў Ленін падобным крытыкам нашай рэвалюцыі. «Для стварэння сацыялізму, гаворыце вы, патрабуецца цывілізаванасць, — пярэчыў ён. — Вельмі добра. Ну, а чаму мы не маглі спачатку стварыць такія прадпасылкі цывілізаванасці ў сябе, як выгнанне памешчыкаў і выгнанне расійскіх капіталістаў, а потым пачаць ужо рух да сацыялізму?»

Дагматычна, па-педанцку трактуючым марксізм не дадзена зразумець галоўнага ў гэтым вучэнні — яго рэвалюцыйнай дыялектыкі. Іменна яна вызначае ўсю паслякастрычніцкую дзейнасць Леніна. Іменна яна дапамагла здзейсніць літаральна на мяжы магчымага і немагчымага палітычны і маральны подзвіг Брэсцкага міру, які выратаваў тысячы і тысячы жыццяў, само існаванне сацыялістычнай Айчыны.

Другі прыклад. Ленін, як Маркс і Энгельс, быў перакананы, што ўзброенай абаронай рэвалюцыі стане народная міліцыя. Але канкрэтныя ўмовы прадыктавалі іншае рашэнне. Навязаная народу грамадзянская вайна, знешняя інтэрвенцыя запатрабавалі новага падыходу. Па дэкрэту Леніна была створана Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія. Гэта была армія новага тыпу, пакрыўшая сябе неўміручай славай у грамадзянскай вайне і адбіцці замежнай інтэрвенцыі.

Суровыя выпрабаванні прынеслі гэтыя гады маладой Савецкай уладзе. Ва ўсёй сваёй прастаце і суровасці паўстала пытанне: быць або не быць сацыялізму. Партыя з'яднала і мабілізавала народ на абарону сацыялістычнай Айчыны, заваёў Кастрычніка. Галодныя, раздзетыя і разутыя, дрэнна ўзброеныя чырвоныя байцы разграмілі добра абучаную і ўзброеную контррэвалюцыйную армію, якую шчодра падкармлівалі імперыялісты Захаду і Усходу. Вогненная мяжа грамадзянскай вайны прайшла па ўсёй краіне, па кожнай сям'і, перавярнула прывычны уклад жыцця, псіхалогію і лёсы людзей. У гэтай смяротнай схватцы перамагла воля народа, імкненне мільёнаў

(Даклад друкуецца з невялікімі скарачэннямі).



# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

да новага жыцця. Краіна рабіла ўсё, каб дапамагчы маладой арміі, жыла і дзейнічала пад лозунгам, абвешчаным Леніным: «Усё для перамогі».

У нашай памяці навекі застанецца подзвіг легендарных герояў — адважных маракоў і конармейцаў, байцоў і камандзіраў маладой Чырвонай Арміі і чырвоных партызан. Яны абаранілі рэвалюцыю, вечная ім слава!

Найглыбейшай рэвалюцыйнай дыялектыкай пранізана і рашэнне аб новай эканамічнай палітыцы, якая істотна расшырыла гарызонты ўяўленняў аб сацыялізме, аб шляхах яго пабудовы.

Або вазьміце такое пытанне. Як вядома, Ленін крытыкаваў абмежаванасці «кааператыўнага сацыялізму». У канкрэтных жа ўмовах, якія склаліся пасля Кастрычніка ў выніку заваёвы ўлады народам, ён па-новаму паглядзеў на гэта пытанне. У артыкуле «Аб кааперацыі» распрацоўваецца палажэнне аб сацыялізме як грамадстве «цывілізаваных кааператараў».

Такімі былі сіла і смеласць марксісцкай дыялектыкі, якая адлюстроўвала саму сутнасць рэвалюцыйнага вучэння і якой так бліскуча валодаў Ленін. Ён лічыў, што ў стварэнні новага свету «дарабляць, перарабляць, пачынаць спачатку прыйдзецца нам яшчэ не раз».

Так, нам прыйшлося не раз дарабляць і перарабляць пачатае, вытрымаць працяглую і настойлівую барацьбу, перажыць гістарычныя працэсы паваротнага, рэвалюцыйнага характару. І яны ў многім змянялі акалічнасці, умовы нашага руху наперад. Яны змянялі і нас саміх — загартоўвалі, узбагачалі вопытам, ведамі, усялялі яшчэ большую ўпэўненасць у поспеху справы рэвалюцыі.

Ацэньваючы ў сусветна - гістарычным маштабе пройдзены намі шлях, зноў і зноў пераконваешся: за кароткі тэрмін мы зрабілі тое, на што іншым запатрабаваліся стагоддзі.

Сацыялістычная рэвалюцыя адбылася ў краіне з сярэднім узроўнем развіцця капіталізму, высокай канцэнтрацыяй прамысловасці, перавагай сялянскага насельніцтва, глыбокімі перажыткамі феадалізму і нават папярэдніх грамадскіх фармацый. Расія дала свету найвялікшыя дасягненні ў галіне навукі і культуры, але тры чвэрці яе насельніцтва былі непісьменнымі. Краіна да крайнасці была разбурана імперыялістычнай вайной і бяздарным кіраваннем.

Будаўніцтва новага жыцця не мела ўзораў, яно прадугледжвала нястомны пошук стваральных рашэнняў. Для партыі камуністаў мэта была ясная — рэвалюцыя і шлях сацыялізму, Савецкая ўлада. Ленін і павёў партыю гэтым шляхам.

У жывой творчасці мас, са складанейшага матэрыялу многаўкладнай Расіі выкрышталізоўваліся прынцыпы і нормы будучага сацыялістычнага ладу, небывалыя ў гісторыі формы арганізацыі грамадства. Удакладняліся, напаўняліся рэальным жыццёвым зместам спачатку чыста тэарэтычныя ўяўленні аб формах народаўладдзя, шляхах і межах абагулення ўласнасці, арганізацыі сацыялістычнай вытворчасці, наладжванні новай, таварыскай дысцыпліны, аб месцы і ролі чалавека ў новым грамадстве.

Галоўны сэнс Кастрычніка — у стварэнні новага жыцця. Яно не перапынялася ні на адзін дзень. Выкарыстоўвалася нават кароткачасовая перадышка, каб будаваць, шукаць шляхі ў сацыялістычную будучыню.

Найвялікшым узлётам народнай ініцыятывы і творчасці адзначаны пачатак дваццатых гадоў. Яны сталі сапраўднай рэвалюцыйнай лабараторыяй сацыяльнага наватарства, пошуку аптымальных форм саюза рабочага класа і працоўнага сялянства, фарміравання механізма рэалізацыі ўсяго спектра інтарэсаў людзей працы.

Ад вымушаных ва ўмовах вайны і разарэння ваенна-камуністычных метадаў арганізацыі вытворчасці і спажывання партыя пераходзіла да больш гібкіх, эканамічна абгрунтаваных, «рэгулярных» інструментаў уздзеяння на сацыяльную рэчаіснасць. Меры новай эканамічнай палітыкі былі накіраваны на пабудову матэрыяльнага фундамента сацыялізму.

Мы ўсё часцей звяртаемся цяпер да апошніх прац Ільіча, да ленінскіх ідэй новай эканамічнай палітыкі, імкнёмся ўзяць з гэтага вопыту ўсё каштоўнае, неабходнае нам сёння. Вядома, было б памылковым ставіць знак роўнасці паміж нэпам і тым, што робім мы цяпер, знаходзячыся на прынцыпова іншай ступені развіцця. У краіне сёння няма таго аднаасобнага сялянства, наладжванне саюза з якім вызначала самыя надзённыя мэты эканамічнай палітыкі дваццатых гадоў.

Але нэп меў і больш далёкі прыцэл. Была пастаўлена задача будаваць новае грамадства «не на энтузіязме непасрэдна, — як пісаў Ленін, — а пры дапамозе энтузіязму, народжанага вялікай рэвалюцыяй, на асабістым інтарэсе, на асабістай зацікаўленасці, на гаспадарчым разліку... Так сказала нам жыццё. Так сказаў нам аб'ектыўны ход развіцця рэвалюцыі».

Гаворачы аб творчым патэнцыяле нэпа, неабходна, відаць, яшчэ раз сказаць аб палітычным і метадалагічным багацці ідэі харчпадатку. Нас, зразумела, прыцягваюць не тагачасныя яго формы, якія заклікаліся былі забяспечыць змычку рабочых і сялян, а закладзеныя ў ідэі харчпадатку магчымасці разняволення стваральнай энергіі мас, павышэння ініцыятывы чалавека, зняцця бюракратычных перашкод, якія абмяжоўвалі дзеянне асноўнага прынцыпу сацыялізму: «Ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы».

Пачатае пад кіраўніцтвам Леніна сацыялістычнае будаўніцтва прынесла многа прынцыпова новага.

Упершыню ў сусветнай гісторыі былі распрацаваны і прыменены метады планавага гаспадарання. План ГОЭЛРО — гэта сапраўды адкрыццё, цэлая ступень у руху сусветнай эканамічнай думкі і практыкі. Не толькі грандыёзны план электрыфікацыі, а праект, на думку Леніна, «гарманічнага аб'яднання» земляробства, прамысловасці і транспарту, па-сучаснаму ж гаворачы, — Комплексная праграма размяшчэння і развіцця прадукцыйных сіл краіны. Ленін назваў яе другой праграмай партыі, «планам работ па аднаўленню ўсёй народнай гаспадаркі і давядзенню яе да сучаснай тэхнікі».

Нараджалася новая культура, якая ўбірала і вопыт мінулага, і мнагаколернае багацце, смеласць, арыгінальнасць талентаў, яркіх індывідуальнасцей, якія рэвалюцыя ўскалыхнула і натхніла на служэнне народу. Непераходзячае значэнне не толькі па сваіх выніках, але і па вопыту, па метадалогіі мае для нас пачатковы, ленінскі этап фарміравання многанацыянальнай дзяржавы Саветаў.

Задумваючыся аб тым часе, калі «з Расіі нэпаўскай будзе Расія сацыялістычная», Ленін не мог, ды і не ставіў перад сабой задачу намаляваць карціну будучага грамадства ва ўсіх дэталях і падрабязнасцях. Але самі шляхі, спосабы руху да сацыялізму праз стварэнне машыннай індустрыі, шырокае каапераванне, пагалоўнае ўцягненне працоўных мас у кіраванне дзяржавай, арганізацыю работы дзяржаўнага апарату па прынцыпу «лепш менш, ды лепш», праз «культурнае развіццё ўсёй народнай масы», умацаванне федэрацыі свабодных нацый «без хлусні і жалеза» — іменна гэта павінна было фарміраваць аблічча краіны, якая выходзіла на прынцыпова новы ўзровень грамадскай будовы.

У апошніх, надзвычай насычаных інтэлектуальна і эмацыянальна ленінскіх працах склалася сістэма поглядаў і сама канцэпцыя будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне. Гэта — велізарнае тэарэтычнае багацце партыі.

Найвялікшым узрушэннем для ўсёй партыі і савецкага народа была заўчасная смерць Уладзіміра Ільіча Леніна. Гора было нязмерным, страта — незаменнай. Гэта разумелі ўсе. Паўставалі справы каласальнай гістарычнай значнасці. Кіраўніцтва партыі павінна было без Леніна, апіраючыся на яго вучэнне і запаветы, шукаць аптымальныя рашэнні, здольныя замацаваць заваёвы рэвалюцыі, весці краіну да сацыялізму ў канкрэтных умовах тагачаснай Савецкай Расіі.

Гісторыя прад'явіла новаму ладу жорсткі ультыматум: або, стварыўшы ў найкарацейшыя тэрміны сваю сацыяльна-эканамічную і тэхнічную базу, выжыць і даць чалавецтву першы вопыт справядлівай арганізацыі грамадства, або пагаснуць і застацца ў памяці вякоў у лепшым выпадку толькі гераічным, але няўдаўшымся сацыяльным эксперыментам. Жыццёва важнае, у поўным сэнсе слова, лёсаноснае значэнне набывала перш за ўсё пытанне аб паскораных тэмпах сацыялістычных пераўтварэнняў.

Перыяд пасля Леніна — 20-я і 30-я гады — заняў асобае месца ў гісторыі Савецкай дзяржавы. За нейкія паўтара дзесятка гадоў былі ажыццёўлены карэнныя грамадскія змяненні. У гэтыя гады ўмясцілася так многа — і з пункту погляду пошукаў аптымальных варыянтаў сацыялістычнага будаўніцтва, і з пункту погляду рэальна дасягнутага ў стварэнні асноў новага грамадства. Гэта былі гады ўпартай працы на мяжы чалавечых магчымасцей, вострай і мнагапланавай барацьбы. Індустрыялізацыя, калектывізацыя, культурная рэвалюцыя, умацаванне многанацыянальнай дзяржавы, усталяванне міжнародных пазіцый СССР, новыя формы кіравання эканомікай і ўсім грамадскім жыццём — усё гэта выпала іменна на гэты перыяд. І ўсё гэта мела далёка ідучыя вынікі.

На працягу дзесяцігоддзяў мы зноў і зноў вяртаемся к гэтаму часу. Гэта натуральна. Таму што тады пачыналася, будавалася першае ў свеце сацыялістычнае грамадства. Гэта быў подзвіг гістарычных маштабаў і гістарычнага значэння. Захапленне подзвігамі бацькоў і дзядоў, ацэнкі нашых сапраўдных дасягненняў будуць жыць вечна, як і самі гэтыя подзвігі і дасягненні. І калі сёння мы ўглядваемся ў сваю гісторыю часам крытычным позіркам, то толькі таму, што хочам лепш, больш поўна ўявіць сабе шляхі ў будучыню.

Неабходна ацаніць мінулае з пачуццём гістарычнай адказнасці і на аснове гістарычнай праўды. Гэта трэба зрабіць, па-першае, у сілу велізарнай важнасці тых гадоў для лёсу нашай дзяржавы, лёсаў сацыялізму. Па-другое, таму што гэтыя гады знаходзяцца ў цэнтры шматгадовых дыскусій як у нас у краіне, так і за рубяжом, дзе побач з пошукамі ісціны нярэдка робяцца спробы дыскрэдытаваць сацыялізм як новы грамадскі лад, як рэальную альтэрнатыву капіталізму. Нарэшце, нам патрэбны праўдзівыя ацэнкі гэтага і ўсіх іншых перыядаў нашай гісторыі, асабліва цяпер, калі разгарнулася перабудова, — патрэбны не для таго, каб зводзіць п[illegible]ычныя рахункі або, як гаворыцца, н[illegible]іваць душу, а для таго, каб аддаць належнае ўсяму гераічнаму, што было ў мінулым, атрымаць урокі з памылак і пралікаў.

Дык вось, аб 20-х—30-х гадах пасля Леніна. Нягледзячы на тое, што партыя і грамадства мелі на ўзбраенні ленінскую канцэпцыю пабудовы сацыялізму, працы Уладзіміра Ільіча пасля Кастрычніцкага перыяду, пошук шляхоў ішоў вельмі няпроста, у вострай ідэйнай барацьбе, у абстаноўцы палітычных дыскусій. У цэнтры іх аказаліся карэнныя праблемы развіцця грамадства, перш за ўсё — пытанне аб магчымасці будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне. Тэарэтычная думка і практыка шукалі: па якіх напрамках і ў якіх формах ажыццяўляць сацыяльна - эканамічныя пераўтварэнні, як забяспечыць іх вырашэнне на сацыялістычных асновах у тых канкрэтных гістарычных умовах, у якіх знаходзіўся Савецкі Саюз.

На парадак дня паўстала практычная, канструктыўная работа, якая запатрабавала найвышэйшай адказнасці. Перш за ўсё востра паўстала пытанне аб індустрыялізацыі краіны і рэканструкцыі эканомікі, без чаго немагчыма было сацыялістычнае будаўніцтва, умацаванне абараназдольнасці. Гэта вынікала з прамых указанняў Леніна, з яго тэарэтычнай спадчыны. У гэтай жа плоскасці і таксама ў адпаведнасці з ленінскімі запаветамі паўстала пытанне аб сацыялістычных пераўтварэннях у вёсцы.

Такім чынам, гутарка ішла аб буйнейшых, паваротных справах, праблемах і задачах. І хоць партыя, паўтараю, мела ленінскія ўстаноўкі па гэтых пытаннях, вакол іх разгарнуліся вострыя дыскусіі.

Варта, відаць, сказаць аб тым, што і да, і пасля рэвалюцыі, у першыя гады сацыялістычнага будаўніцтва, зусім не ўсе кіраўнікі партыі падзялялі ленінскія погляды па раду важнейшых праблем. Акрамя таго, ленінскія рэкамендацыі не маглі ахапіць усе канкрэтныя пытанні будаўніцтва новага грамадства. Аналізуючы ідэйныя спрэчкі таго часу, трэба мець на ўвазе, што правядзенне гіганцкіх рэвалюцыйных пераўтварэнняў у такой краіне, якой была тады Расія, — само па сабе найцяжэйшая задача. Краіна знаходзілася на гістарычным маршы, рэзка паскаралася яе развіццё, хутка і глыбока пераўтвараліся ўсе бакі грамадскага жыцця.

Ідэйная барацьба, якая адлюстроўвала ўсю гаму інтарэсаў класаў, сацыяльных груп і праслоек, патрабаванняў і задач часу, гістарычных традыцый і націск неадкладных задач, а таксама ўмовы варожага капіталістычнага акружэння, — гэта ідэйная барацьба непарыўна спляталася з падзеямі і працэсамі ў эканоміцы, палітыцы, ва ўсіх сферах жыцця людзей.

Словам, разабрацца, знайсці адзіна правільны курс у такой няпростай і бурнай абстаноўцы было архіцяжка. Характар ідэйнай барацьбы ў значнай меры ўскладняўся і асабістым саперніцтвам у кіраўніцтве партыі. Старыя рознагалоссі, якія мелі месца яшчэ пры жыцці Леніна, далі аб сабе знаць і ў новай абстаноўцы, прычым у вельмі вострай форме. Аб магчымасці такой небяспекі, як вядома, папярэджваў Ленін. У «Пісьме да з'езда» ён падкрэсліваў, што «гэта не дробязь, або гэта такая дробязь, якая можа атрымаць рашаючае значэнне». Так у многім і атрымалася.

Дробнабуржуазная натура ўзяла верх у некаторых аўтарытэтных дзеячаў. Яны павялі сябе фракцыйна. Гэта бударажыла партыйныя арганізацыі, адрывала ад жывой справы, перашкаджала працаваць. Яны працягвалі правакаваць раскол нават тады, калі пераважнай большасці ў партыі стала ясна, што іх погляды ідуць уразрэз з ленінскімі ідэямі і планамі, што іх прапановы памылковыя і могуць збіць краіну з правільна ўзятага курсу.

Гэта адносіцца перш за ўсё да Л. Д. Троцкага, які пасля смерці Леніна праявіў нязмерныя прэтэнзіі на лідэрства ў партыі, у поўнай меры пацвердзіўшы ленінскую ацэнку яго як празмерна самаўпэўненага, заўсёды віляючага і жульнічаючага палітыка. Троцкі і трацкісты адмаўлялі магчымасць пабудовы сацыялізму ва ўмовах капіталістычнага акружэння. У знешняй палітыцы рабілі стаўку на экспарт рэвалюцыі, а ва ўнутранай — на «завінчванне гаек» у адносінах да сялянства, на эксплуатацыю вёскі горадам, на перанясенне ў кіраванне грамадствам адміністрацыйна - ваенных метадаў. Трацкізм — гэта палітычная плынь, ідэолагі якой, прыкрываючыся левай псеўдарэвалюцыйнай фразай, па сутнасці займалі капітулянцкую пазіцыю. На самай справе гэта была атака на ленінізм па ўсяму фронту. Размова ішла практычна аб лёсе сацыялізму ў нашай краіне, аб лёсе рэвалюцыі.

У гэтых умовах неабходна было ўсенародна развянчаць трацкізм, выкрыць яго антысацыялістычную сутнасць. Сітуацыя ўскладнялася тым, што трацкісты выступілі ў блоку з «новай апазіцыяй» на чале з Р. Я. Зіноўевым і Л. Б. Каменевым. Лідэры апазіцыі, разумеючы, што яны ў меншасці, зноў і зноў навязвалі партыі дыскусію, разлічваючы на раскол партыйных радоў. Але ў канчатковым выніку партыя выказалася за лінію ЦК, супраць апазіцыі, якая была ідэйна і арганізацыйна разгромлена.

Такім чынам, кіруючае ядро партыі на чале з І. В. Сталіным адстаяла ленінізм у ідэйнай барацьбе, сфармулявала стратэгію і тактыку на пачатковым этапе сацыялістычнага будаўніцтва, атрымала адабрэнне палітычнага курсу з боку большасці членаў партыі і працоўных. Важную ролю ў ідэйным разгроме трацкізму адыгралі М. І. Бухарын, Ф. Э. Дзяржынскі, С. М. Кіраў, Р. К. Арджанікідзе, Я. Э. Рудзутак і іншыя. У самым канцы 20-х гадоў вострая барацьба разгарнулася і па пытанню аб шляхах пераводу сялянства на рэйкі сацыялізму. У ёй па сутнасці выявіліся розныя адносіны большасці Палітбюро і групы Бухарына да прымянення прынцыпаў нэпа на новым этапе развіцця савецкага грамадства.

Канкрэтныя ўмовы таго часу — і ўнутраныя, і міжнародныя — вызначылі як надзённую задачу значнае павышэнне тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Бухарын і яго прыхільнікі ў сваіх разліках, тэарэтычных палажэннях практычна недаацанілі значэнне фактару часу ў будаўніцтве сацыялізму ў 30-я гады. Іх пазіцыя ў многім вызначалася дагматычным мысленнем, недыялектычнасцю ацэнкі канкрэтнай абстаноўкі. І сам Бухарын, і яго прыхільнікі ў хуткім часе прызналі свае памылкі.

У гэтай сувязі дарэчы ўспомніць характарыстыку Бухарына, якую даў яму Ленін: «Бухарын не толькі каштоўнейшы і буйнейшы тэарэтык партыі, ён таксама законна лічыцца любімцам усёй партыі, але яго тэарэтычныя перакананні вельмі з вялікім сумненнем могуць быць аднесены да зусім марксісцкіх, бо ў ім ёсць нешта схаластычнае (ён ніколі не вучыўся і, думаю, ніколі не разумеў у поўнай меры дыялектыкі)». Жыццё зноў пацвердзіла ленінскую праваты.

Такім чынам, палітычныя дыскусіі таго часу адлюстравалі складаны працэс у развіцці партыі, які характарызуецца вострай барацьбой па важнейшых праблемах сацыялістычнага будаўніцтва. У гэтай барацьбе, праз якую давялося прайсці, склалася канцэпцыя індустрыялізацыі і калектывізацыі.

(Працяг на 4—5-й стар.).

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

(Працяг. Пачатак на 2—3-й стар.).

Пад кіраўніцтвам партыі, яе ЦК у краіне за кароткія тэрміны былі створаны практычна нанава цяжкая індустрыя, уключаючы машынабудаванне, абаронную прамысловасць, сучасная па тых часах хімічная вытворчасць, выкананы план ГОЭЛРО. Слаўнымі сімваламі гэтых дасягненняў сталі Магнітка, Кузбас, Днепрагэс, Уралмаш, Хібінскі камбінат, аўтамабільныя заводы ў Маскве і ў Горкім, авіяцыйныя заводы, Сталінградскі, Чэлябінскі і Харкаўскі трактарныя заводы, Растсельмаш, Камсамольск-на-Амуры, Турксіб і Вялікі Ферганскі канал, многія іншыя вялікія будоўлі першых пяцігодак. У гэты час узніклі дзесяткі навукова - даследчых інстытутаў, шырокая сетка вышэйшых навучальных устаноў.

Партыя прапанавала небывалы раней шлях індустрыялізацыі—не спадзеючыся на знешнія крыніцы фінансавання, не чакаючы шматгадовых накапленняў за кошт развіцця лёгкай прамысловасці, адразу рушыць наперад цяжкую індустрыю. Гэта быў адзіна магчымы ў тых умовах, хоць і неймаверна цяжкі для краіны і народа шлях. Гэта быў наватарскі крок, у якім рэвалюцыйны парыў мас улічваўся як складаючая эканамічнага росту. Індустрыялізацыя адным рыўком вывела краіну на якасна новы ўзровень. К канцу 30-х гадоў Савецкі Саюз па выпуску прамысловай прадукцыі выйшаў на першае месца ў Еўропе і на другое месца ў свеце, стаўшы сапраўды вялікай індустрыяльнай дзяржавай. Гэта быў працоўны подзвіг сусветна-гістарычнага значэння, подзвіг вызваленай працы, подзвіг партыі бальшавікоў.

І гледзячы на гісторыю цвярозымі вачамі, улічваючы ўсю сукупнасць унутраных і міжнародных рэальнасцей, нельга не задаць пытанне: ці можна было ў тых умовах выбраць іншы курс, чым той, які быў прапанаваны партыяй? Калі мы хочам застацца на пазіцыях гістарызму, праўды жыцця, адказ можа быць адзін: не, нельга. У тых умовах, калі выразна нарастала адчуванне пагрозы імперыялістычнай агрэсіі, у партыі ўмацавалася перакананне ў неабходнасці не прайсці, а ў найкарацейшыя гістарычныя тэрміны літаральна прабегчы адлегласць ад кувалды і сялянскай сахі да развітой індустрыі, без якой была б немінучай гібель усёй справы рэвалюцыі.

Жыццёвасць вызначаных партыяй планаў, зразуметых і ўспрынятых масамі, лозунгаў і задум, у якіх быў увасоблены рэвалюцыйны дух Кастрычніка, знайшла сваё выражэнне ў тым уразіўшым свет энтузіязме, з якім мільёны савецкіх людзей уключыліся ў будаўніцтва савецкай індустрыі. У найцяжэйшых умовах, пры адсутнасці механізацыі, на паўгалодным пайку людзі рабілі цуды. Іх натхняла тое, што яны далучаліся да вялікай гістарычнай справы. Не будучы дастаткова пісьменнымі, яны класавым чуццём разумелі, удзельнікамі якой грандыёзнай, небывалай справы яны сталі.

Наш абавязак і абавязак тых, хто пойдзе за намі, помніць аб гэтым подзвігу нашых дзядоў і бацькоў. Кожны павінен ведаць, што іх праца і бескарыслівая самааддача не былі марнымі. Яны перадолелі ўсё, што выпала на іх долю, і ўнеслі найвялікшы ўклад ва ўсталяванне заваёў Кастрычніка, у стварэнне тых асноў нашай сілы, якая дазволіла выратаваць Радзіму ад смяротнай небяспекі, выратаваць сацыялізм для будучыні, для нас з вамі, таварышы. Слава ім і добрая памяць!

Разам з тым, перыяд, аб якім ідзе размова, прынёс і страты. Яны знаходзіліся ў пэўнай сувязі з самімі поспехамі, аб якіх я гаварыў. Тады ўвералі ва універсальную эфектыўнасць жорсткай цэнтралізацыі, у тое, што камандныя метады — самы кароткі, лепшы шлях да вырашэння любых задач. Гэта адбівалася на адносінах да людзей, да іх жыццёвых умоў.

Узнікла адміністрацыйна - камандная сістэма партыйна - дзяржаўнага кіраўніцтва краінай, узмацняўся бюракратызм, аб небяспецы якога папярэджваў у свой час Ленін. Пачалі складвацца і адпаведныя структура кіравання і метады планавання. У прамысловасці пры тагачасных яе аб'ёмах, калі літаральна на вачах былі ўсе асноўныя аб'екты індустрыяльнага будынка, такія метады, такая сістэма кіравання ўвогуле далі свае вынікі. Аднак такая ж жорсткая сістэма цэнтралізацыі і камандавання была недапушчальнай пры вырашэнні задач пераўтварэння вёскі.

Трэба адкрыта сказаць: на новым этапе не хапіла па-ленінску ўважлівых адносін да інтарэсаў працоўнага сялянства. І галоўнае — недаацанілі таго факта, што сялянства як клас карэнным чынам змянілася за гады пасля рэвалюцыі. Асноўнай фігурай стаў серадняк. Ён усталяваўся як гаспадар, гэты селянін-працаўнік, які атрымаў зямлю ад рэвалюцыі і за цэлае дзесяцігоддзе пераканаўся ў тым, што Савецкая ўлада — гэта і яго ўлада. Ён стаў верным і надзейным саюзнікам рабочага класа, саюзнікам на новай аснове, пераконваўся на практыцы, што яго жыццё ўсё больш паварочваецца да лепшага.

І калі б больш лічыліся з аб'ектыўнымі эканамічнымі законамі і было б праяўлена больш увагі да тых сацыяльных працэсаў, якія адбываліся ў вёсцы; калі б наогул адносіны да гэтага велізарнага масіву працоўнага сялянства, большасць якога ўдзельнічала ў рэвалюцыі і абараняла яе ад белагвардзейшчыны і інтэрвентаў, былі палітычна больш вывеpанымі; калі б паслядоўна праводзілася лінія на саюз з серадняком супраць кулака, то не было б і тых перагібаў, якія мелі месца пры правядзенні калектывізацыі.

Сёння ясна: у велізарнай справе, якая закранала лёсы большасці насельніцтва краіны, было дапушчана адступленне ад ленінскай палітыкі ў адносінах да сялянства. Кіраўніцтва гэтым важнейшым і вельмі складаным сацыяльным працэсам, дзе вельмі многае залежала ад мясцовых умоў, ажыццяўлялася пераважна адміністрацыйнымі метадамі. Узнікла перакананасць, што ўсе праблемы можна вырашыць адным махам у найкарацейшыя тэрміны. Цэлыя вобласці і рэгіёны краіны п[illegible] спаборнічаць, хто хутчэй правядзе [illegible]ную калектывізацыю. Зверху даваліся адвольныя працэнтныя разнарадкі. Грубыя парушэнні прынцыпаў калектывізацыі набылі паўсюдны характар. Не абышлося без перагібаў у правядзенні барацьбы супраць кулацтва. Сама па сабе [illegible]авільная лінія на барацьбу з кулацтв[illegible]аста так шырока трактавалася, што [illegible]ахапіла і значную частку сераднякоў. Такая гістарычная рэальнасць.

Але, таварышы, калі ў цэлым ацаніць значэнне калектывізацыі ва ўмацаванні пазіцый сацыялізму ў вёсцы, то яна ў канчатковым выніку была паваротам прынцыповага значэння. Калектывізацыя азначала карэннае змяненне ўсяго ўкладу жыцця асноўнай масы насельніцтва краіны на сацыялістычных асновах. Яна стварыла сацыяльную базу для мадэрнізацыі аграрнага сектара і пераводу яго на рэйкі культурнага гаспадарання, дазволіла значна павысіць прадукцыйнасць працы, вызваліла значную частку рабочых рук, неабходных для іншых сфер сацыялістычнага будаўніцтва. Усё гэта мела гістарычныя вынікі.

Для разумення сітуацыі тых гадоў неабходна мець на ўвазе, што адміністрацыйна - камандная сістэма, якая пачала фарміравацца ў ходзе індустрыялізацыі і атрымала новы імпульс у час калектывізацыі, адбілася на ўсім грамадска-палітычным жыцці краіны. Усталяваўшыся ў эканоміцы, яна распаўсюдзілася і на надбудову, абмяжоўваючы разгортванне дэмакратычнага патэнцыялу сацыялізму, стрымліваючы прагрэс сацыялістычнай дэмакратыі.

Але сказанае не раскрывае ўсёй складанасці таго перыяду. Што тут адбылося? Заставалася фактычна ў мінулым паласа найбольш сур'ёзных для партыі ідэйна - палітычных выпрабаванняў. Мільёны людзей з энтузіязмам уключыліся ў работу па ажыццяўленню сацыялістычных пераўтварэнняў. Сталі паяўляцца першыя поспехі. І ў гэты ж час метады, дыктуемыя перыядам барацьбы з варожым супраціўленнем эксплуататарскіх класаў, механічна пераносяцца на перыяд мірнага сацыялістычнага будаўніцтва, калі ўмовы змяніліся кардынальным чынам. У краіне ствараецца атмасфера нецярпімасці, варожасці, падазронасці. У далейшым такая палітычная практыка пашыралася і абгрунтоўвалася памылковай «тэорыяй» абвастрэння класавай барацьбы ў працэсе будаўніцтва сацыялізму.

Усё гэта аказала згубнае ўздзеянне на грамадска - палітычнае развіццё краіны, прывяло да цяжкіх вынікаў. Зусім відавочна, што іменна адсутнасць належнага ўзроўню дэмакратызацыі савецкага грамадства зрабіла магчымымі і культ асобы, і парушэнні законнасці, самавольства і рэпрэсіі 30-х гадоў. Прама гаворачы — сапраўдныя злачынствы на глебе злоўжывання ўладай. Масавым рэпрэсіям падвергнуліся многія тысячы членаў партыі і беспартыйных. Такая, таварышы, горкая праўда. Быў нанесены сур'ёзны ўрон справе сацыялізму і аўтарытэту партыі. І мы павінны прама сказаць аб гэтым. Гэта неабходна для канчатковага і беспаваротнага ўсталявання ленінскага ідэалу сацыялізму.

Цяпер многа дыскусій аб ролі Сталіна ў нашай гісторыі. Яго асоба крайне супярэчлівая. Застаючыся на пазіцыях гістарычнай праўды, мы павінны бачыць як неаспрэчны ўклад Сталіна ў барацьбу за сацыялізм, абарону яго заваёў, так і грубыя палітычныя памылкі, самавольства, дапушчаныя ім і яго акружэннем, за якія наш народ заплаціў вялікую цану і якія мелі цяжкія вынікі для жыцця нашага грамадства. Часам сцвярджаюць, што Сталін не ведаў аб фактах беззаконнасці. Дакументы, якія мы маем, гавораць, што гэта не так. Віна Сталіна і яго бліжэйшага акружэння перад партыяй і народам за дапушчаныя масавыя рэпрэсіі і беззаконнасць велізарная і недаравальная. Гэта ўрок для ўсіх пакаленняў.

Вядома, насуперак сцвярджэнням нашых ідэйных праціўнікаў культ асобы не быў непазбежным. Ён чужы прыродзе сацыялізму, з'яўляецца адступленнем ад яго асноватворных прынцыпаў і, такім чынам, не мае ніякага апраўдання. На XX і XXII з'ездах партыя сурова асудзіла і сам культ Сталіна, і яго вынікі. Мы ведаем цяпер, што палітычныя абвінавачанні і рэпрэсіі супраць рада дзеячаў партыі і дзяржавы, супраць многіх камуністаў і беспартыйных, гаспадарчых і ваенных кадраў, вучоных і дзеячаў культуры былі вынікам наўмыснай фальсіфікацыі.

Многія абвінавачанні ў далейшым — асабліва пасля XX з'езда [illegible]тыі — былі зняты. Тысячы бязвінна [illegible]цярпеўшых поўнасцю рэабілітаваны.

Але працэс аднаўлення справядлівасці не быў даведзены да канца і фактычна прыпынены ў сярэдзіне 60-х гадоў. Цяпер у адпаведнасці з рашэннямі кастрычніцкага (1987 года) Пленума ЦК прыходзіцца зноў вяртацца [illegible] тага. Палітбюро ЦК стварыла каміс[illegible] для ўсебаковага разгляду новых і ўжо вядомых раней фактаў і дакументаў, якія адносяцца да гэтых пытанняў. Па выніках работы камісіі будуць прыняты адпаведныя рашэнні.

Усё гэта знойдзе адлюстраванне і ў нарысе гісторыі КПСС, падрыхтоўка якога будзе даручана спецыяльнай камісіі ЦК. Мы павінны гэта зрабіць. Тым больш, што і цяпер яшчэ сустракаемся са спробамі адвярнуцца ад балючых пытанняў нашай гісторыі, замаўчаць іх, зрабіць выгляд, быццам нічога асаблівага не адбылося. З гэтым мы не можам згадзіцца. Гэта было б пагарджаннем гістарычнай праўды, непавагай да памяці тых, хто аказаўся нявіннай ахвярай беззаконнасці і самавольства. Не можам яшчэ і таму, што праўдзівы аналіз павінен дапамагчы нам вырашаць сённяшнія нашы праблемы: дэмакратызацыі, законнасці, публічнасці, пераадолення бюракратызму — словам, надзённыя праблемы перабудовы. Вось чаму нам патрэбны і тут поўная яснасць, дакладнасць і паслядоўнасць. Сумленнае разуменне як велізарных нашых дасягненняў, так і мінулых бед, поўная і правільная палітычная іх ацэнка дадуць сапраўдны маральны арыенцір на будучыню.

Падводзячы агульны вынік перыяду 20-х—30-х гадоў пасля Леніна, можна сказаць так: мы прайшлі цяжкі, поўны супярэчнасцей і складанасцей, але вялікі і гераічны шлях. Ні грубейшыя памылкі, ні дапушчаныя адступленні ад прынцыпаў сацыялізму не маглі звярнуць наш народ, нашу краіну з таго шляху, на які яна стала, зрабіўшы свой выбар у 1917 годзе. Вельмі вялікі быў імпульс Кастрычніка! Вельмі моцныя былі ідэі сацыялізму, якія авалодалі масамі! Народ адчуў сябе ўдзельнікам вялікай справы, пачаў карыстацца вынікамі сваёй працы. Яго патрыятызм набыў новы, сацыялістычны змест.

І гэта з усёй сілай праявілася ў суровых выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў.

Сёння на Захадзе актыўна абмяркоўваецца сітуацыя пярэдадня вайны. Праўду перамешваюць з паўпраўдай. Асабліва заўзятыя тыя, хто незадаволены вынікамі другой сусветнай вайны—палітычнымі, тэрытарыяльнымі і сацыяльнымі, хто працягвае прыкідваць, як бы іх падправіць. Таму і зацікаўлены ў тым, каб паставіць гістарычную праўду з ног на галаву, пераатасаваць прычынна-выніковыя сувязі, сфальсіфікаваць храналогію. У гэтым кантэксце звяртаюцца да любой хлусні, каб узваліць на Савецкі Саюз віну за другую сусветную вайну, шлях для якой быў нібыта адкрыты пактам Рыбентропа — Молатава аб ненападзе. Пытанне заслугоўвае таго, каб аб ім сказаць некалькі больш падрабязна.

Па сутнасці, другая сусветная вайна стала трагічнай рэальнасцю зусім не 1 верасня 1939 года. Захоп Японіяй Паўночна-Усходняга Кітая («Маньчжурскі інцыдэнт» 1931—1932 гадоў), напад Італіі на Эфіопію (1935 год) і Албанію (вясна 1939 года), германа-італьянская інтэрвенцыя супраць рэспубліканскай Іспаніі (1936—1939 гады), узброенае ўварванне Японіі ў Паўночны, а затым у Цэнтральны Кітай (лета 1937 года) — вось яны, першыя пажары другой сусветнай вайны.

Іншае пытанне, што тады на Захадзе яшчэ рабілі выгляд, нібыта гэта іх не датычыць або датычыць не настолькі, каб стаць на абарону ахвяр агрэсіі. Нянавісць да сацыялізму, даўгачасныя разлікі, класавы эгацэнтрызм перашкаджалі цвяроза асэнсаваць рэальныя небяспекі. Больш таго, фашызму настойліва прапаноўвалася місія ўдарнага атрада ў крыжовым антыкамуністычным паходзе. Услед за Эфіопіяй і Кітаем у топку «супакойвання» паляцелі Аўстрыя, Чэхаславакія, меч завіс над Польшчай, усімі дзяржавамі Балтыйскага мора і Дунайскага басейна, у адкрытую вялася прапаганда ператварыць Украіну ў пшанічнае поле і жывёльны двор «трэцяга рэйха». У канчатковым выніку асноўныя патокі агрэсіі каналізаваліся супраць Савецкага Саюза, а паколькі дзяліць нашу краіну пачалі задоўга да вайны, то няцяжка ўявіць сабе, якім абмежаваным быў у нас выбар.

Гавораць, што рашэнне, якое прыняў Савецкі Саюз, заключыўшы з Германіяй пакт аб ненападзенні, не было лепшым. Магчыма, і так, калі кіравацца не жорсткай рэальнасцю, а разумовымі абстракцыямі, вырванымі з кантэксту часу. І ў гэтых умовах пытанне стаяла прыкладна гэтак жа, як у час Брэсцкага міру: быць ці не быць нашай краіне незалежнай, быць ці не быць сацыялізму на Зямлі.

СССР зрабіў многае, каб стварыць сістэму калектыўнай бяспекі і прадухіліць сусветную бойню. Але савецкія ініцыятывы не сустрэлі водгуку ў заходніх палітыкаў і палітыканаў, якія спакойна разлічвалі, як бы спрытней уцягнуць сацыялізм у агонь вайны, напрамую сутыкнуць яго з фашызмам.

Адверmembersжаныя ўжо па свайму сацыялістычнаму нараджэнню, мы ні пры якіх акалічнасцях не маглі быць для імперыялізму справядлівымі. Як я ўжо гаварыў, заходнія кіруючыя колы, спрабуючы адмыць свае грахі, стараюцца пераканаць людзей, што старт нападу нацыстаў на Польшчу і тым самым другой сусветнай вайне даў савецка - германскі пакт аб ненападзенні ад 23 жніўня 1939 года. Як быццам і не было ні Мюнхенскага пагаднення з Гітлерам, падпісанага Англіяй і Францыяй яшчэ ў 1938 годзе пры актыўным садзейнічанні ЗША, ні аншлюсу Аўстрыі, ні распяцця Іспанскай рэспублікі, ні акупацыі нацыстамі Чэхаславакіі і Клайпеды, ні заключэння ў 1938 годзе Лонданам і Парыжам пактаў аб ненападзенні з Германіяй. Дарэчы, заключыла падобны пакт і даваенная Польшча. Усё гэта, як бачыце, цалкам укладвалася ў структуру імперыялістычнай палітыкі, лічылася і лічыцца зусім звычайным.

З дакументаў вядома, што дата нападу Германіі на Польшчу («не пазней 1 верасня») была ўстаноўлена яшчэ 3 красавіка 1939 года, гэта значыць задоўга да савецка - германскага пакта. У Лондане, Парыжы, Вашынгтоне ведалі ў найдрабнейшых дэталях падрыхтоўкі да польскага паходу, як ведалі і аб тым, што адзінай перашкодай, здольнай спыніць гітлераўцаў, магло быць заключэнне не пазней жніўня 1939 года англа-франка-савецкага ваеннага саюза. Ведала аб гэтых планах і кіраўніцтва нашай краіны, таму і пераконвала Англію і Францыю ў неабходнасці калектыўных мер. Яно заклікала да супрацоўніцтва ў мэтах спынення агрэсіі і тагачасны польскі ўрад.

Але ў заходніх дзяржаў разлік быў іншым: паманіць СССР абяцаннем саюза і перашкодзіць тым самым заключэнню прапанаванага нам пакта аб ненападзенні, пазбавіць нас магчымасці лепш падрыхтавацца да непазбежнага нападу гітлераўскай Германіі на СССР. Мы не мо-

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

жам забыць і таго, што ў жніўні 1939 года Савецкі Саюз стаяў перад рэальнай пагрозай вайны на два франты — на захадзе з Германіяй, а на ўсходзе — з Японіяй, якая развязала кровапралітны канфлікт ля ракі Халхін-Гол.

Але жыццё і смерць, пагрэбаваўшы міфамі, выйшлі на рэальныя арбіты. Адкрывалася новая глава — найцяжэйшая і найскладанейшая ў навейшай гісторыі. На тым этапе, аднак, нам удалося адтэрмінаваць схватку з ворагам, такім ворагам, які пакідаў і сабе, і праціўніку адзін выбар — перамагчы або загінуць.

Навязаная нам агрэсія была бязлітасным экзаменам на жыццёвасць сацыялістычнага ладу, на моц многанацыянальнай Савецкай дзяржавы, на сілу патрыятычнага духу савецкіх людзей. І гэты экзамен агнём і мячом быў намі вытрыманы, таварышы!

Вытрыманы таму, што для нашага народа гэта вайна стала Вялікай Айчыннай, таму што ў барацьбе з такім ворагам, як германскі фашызм, пытанне стаяла аб жыцці або смерці, аб тым, быць нам свабоднымі або трапіць у зняволенне.

Вытрыманы таму, што вайна стала ўсенароднай. На абарону Айчыны падняліся ўсе: і стары, і малады, мужчыны і жанчыны, усе нацыі і народнасці вялікай краіны. У свой першы бой уступіла і пакаленне, народжанае Кастрычнікам і выхаванае сацыялістычным ладам. Небывалая стойкасць і гераізм на палях бітваў, мужная барацьба партызан і падпольшчыкаў за лініяй фронта, амаль кругласутачная, нястомная праца ў тыле — вось чым была для нас гэта вайна.

Савецкія людзі змагаліся і працавалі, абараняючы Радзіму, сацыялістычны лад, ідэі і справу Кастрычніка. Калі ў наш агульны дом прыйшла велізарная бяда, савецкі народ не пахіснуўся, не сагнуўся — ні пад ударамі першых няўдач і паражэнняў, ні пад цяжарам мільёнаў смярцей, мук і пакут. З першага дня вайны ён цвёрда верыў у будучую перамогу. У салдацкім шынялі і рабочай спяцоўцы ён зрабіў усё, што было на грані і звыш грані чалавечых сіл, каб наблізіць гэты доўгачаканы дзень. І калі на 1418-ты дзень вайны прыйшла перамога, увесь выратаваны свет уздыхнуў свабодна, аддаючы належнае савецкаму народу-пераможцу, герою і працаўніку, яго доблеснай арміі, якая прайшла з баямі тысячы кіламетраў, кожны з якіх каштаваў многіх жыццяў, немалой крыві і поту.

У Вялікую Айчынную вайну ва ўсю моц праявіўся талент выдатных палкаводцаў, якія выйшлі з глыбінь народа, — Г. К. Жукава, К. К. Ракасоўскага, А. М. Васілеўскага, І. С. Конева, іншых праслаўленых маршалаў, генералаў і афіцэраў — тых, хто камандаваў франтамі і арміямі, карпусамі, дывізіямі і палкамі, ротамі і ўзводамі. У дасягненні перамогі адыгралі сваю ролю велізарная палітычная воля, мэтанакіраванасць і настойлівасць, уменне арганізаваць і дысцыплінаваць людзей, праяўленыя ў гады вайны І. В. Сталіным. Але галоўны цяжар вайны вынес на сабе просты савецкі салдат — плоць ад плоці народа, вялікі працаўнік, мужны, любячы сваю Айчыну. Вялікі яму гонар і вечная слава!

Мільёны ветэранаў Вялікай Айчыннай і сёння ў страі, па-баявому ўдзельнічаюць у справах рэвалюцыйнай перабудовы, абнаўлення грамадства. Ім — наша сыноўская ўдзячнасць!

Душою ўсіх ратных і працоўных спраў была наша ленінская партыя. На фронце, у акопах камуністы першымі падымаліся ў атаку, сваім прыкладам ведучы за сабой іншых; у тыле апошнімі пакідалі станкі, палі і фермы. Савецкія людзі, як ніколі, адчулі, што ВКП (б) — гэта іх родная партыя, а камуністы на справе паказваюць, што значыць быць авангардам народа, калі бушуе полымя вайны, калі пытанне стаіць аб жыцці або смерці.

Можна з упэўненасцю сказаць: гады Вялікай Айчыннай вайны — адна з самых слаўных і гераічных старонак у жыцці самой партыі, напісаных мужнасцю і адвагай, найвялікшай самааддачай і самаахвяраваннем мільёнаў камуністаў. Вайна паказала, што савецкі народ, партыя, сацыялізм і Кастрычнік непадзельныя і няма ў свеце сіл, якія маглі б знішчыць гэта адзінства.

Сацыялізм не толькі ўстаяў і не праста атрымаў перамогу. Ён выйшаў з самай страшнай, разбуральнай з войнаў загартаваным маральна, палітычна, умацаваў свой аўтарытэт і ўплыў ва ўсім свеце.

Пасля заканчэння вайны непрыяцелі прадказвалі нам эканамічны заняпад, выпадзенне нашай краіны надоўга з сусветнай палітыкі, лічылі, што нам за паўсотню, а то і больш гадоў не справіцца з вынікамі вайны. Але савецкі народ у найкарацейшыя тэрміны аднавіў разбураныя гарады і вёскі, узняў з руін заводы і фабрыкі, калгасы і саўгасы, школы і ВНУ, культурныя ўстановы.

І зноў праявіла сябе вялікая сіла сацыялістычнай дзяржавы: воля партыі, якой рухала разуменне вышэйшых інтарэсаў радзімы Кастрычніка; стойкасць і пралетарская мудрасць рабочых, што ўзялі на свае плечы галоўны цяжар мірнага пераўтварэння індустрыяльнай магутнасці краіны і аднаўлення парушанага; самаадданасць, цярпенне і патрыятызм сялянства, якое аддавала апошняе, каб пракарміць спустошаную краіну. І дружба народаў, іх узаемадапамога, гатоўнасць разам, па-брацку дапамагчы таму, хто асабліва пацярпеў, падняцца тым раёнам агульнай Радзімы, па якіх асабліва цяжкім каткам бязлітасна прайшла вайна.

У гераізме працоўных будняў нялёгкіх пасляваенных гадоў — крыніца нашых дасягненняў, эканамічнага і навукова-тэхнічнага прагрэсу, асваення атамнай энергіі, першых стартаў касмічных караблёў, росту матэрыяльнага і культурнага дабрабыту народа.

Але ў гэты ж час—час новага народнага подзвігу ў імя сацыялізму — усё больш адчувальна давала аб сабе знаць супярэчн[illegible] паміж тым, якім стала наша грам[illegible]ва, і ранейшымі метадамі кіраўніцтва. Працягваліся злоўжыванні ўладай, парушэнні сацыялістычнай законнасці. Былі сфабрыкаваны «ленінградская справа», «справа ўрачоў». Карацей кажучы, не хапала сапраўднай павагі да народа. Людзі самазабыўна працавалі, в[illegible]ліся, імкнуліся да новых ведаў, мір[illegible]я з цяжкасцямі і нястачамі, але адчувалі, што ў грамадстве накопліваецца і трывога, і надзея. І ўсё гэта захапіла грамадскую свядомасць у хуткім часе пасля смерці Сталіна.

У сярэдзіне 50-х гадоў, асабліва пасля XX з'езда КПСС, над краінай пранёсся вецер перамен, народ акрыяў, ажыў, стаў смялейшым і больш упэўненым. Нямала мужнасці ад партыі і яе кіраўніцтва на чале з М. С. Хрушчовым запатрабавалі крытыка культу асобы і яго вынікаў, аднаўленне сацыялістычнай законнасці. Пачалі разбурацца ранейшыя стэрэатыпы ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Былі зроблены спробы зламаць камандна-бюракратычныя метады кіравання, якія ўсталяваліся ў 30—40-х гадах, надаць сацыялізму больш дынамізму, падкрэсліць гуманістычныя ідэалы і каштоўнасці, адрадзіць творчы дух ленінізму ў тэорыі і практыцы.

Імкненнем змяніць прыярытэты эканамічнага развіцця, увесці ў дзеянне стымулы, звязаныя з асабістай зацікаўленасцю ў выніках працы, былі пранікнуты рашэнні вераснёўскага (1953 года) і ліпеньскага (1955 года) Пленумаў ЦК КПСС. Больш увагі стала ўдзяляцца развіццю сельскай гаспадаркі, жыллёваму будаўніцтву, лёгкай прамысловасці, сферы спажывання, усяму таму, што звязана з задавальненнем патрэбнасцей чалавека.

Словам, адбываліся змяненні да лепшага — і ў савецкім грамадстве, і ў міжнародных адносінах. Аднак было зроблена нямала суб'ектывісцкіх памылак, якія ўскладнілі выхад сацыялізму на новы этап, а ў многім і скампраметавалі прагрэсіўныя пачынанні. Справа ў тым, што якасна новыя задачы ўнутранай і знешняй палітыкі, партыйнага будаўніцтва вырашаліся нярэдка валюнтарысцкімі метадамі, з дапамогай старога палітычнага і эканамічнага механізма. Але галоўныя прычыны няўдач рэформ, якія прымаліся ў той перыяд, заключаліся ў тым, што яны не апіраліся на шырокае разгортванне працэсаў дэмакратызацыі.

На кастрычніцкім (1964 года) Пленуме ЦК КПСС адбылася змена кіраўніцтва партыі і краіны, прыняты рашэнні, накіраваныя на пераадоленне валюнтарысцкіх тэндэнцый і перакосаў ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Партыя імкнулася дабіцца пэўнай стабілізацыі ў палітыцы, надаць ёй рэалістычныя рысы і грунтоўнасць.

Сакавіцкі і вераснёўскі (1965 года) Пленумы ЦК КПСС вызначылі новыя падыходы ў кіраўніцтве эканомікай. Былі распрацаваны і сталі праводзіцца ў жыццё гаспадарчая рэформа, буйныя праграмы па асваенню новых раёнаў, развіццю прадукцыйных сіл. Гэта да лепшага змяніла ў першыя гады сітуацыю ў краіне. Рос эканамічны і навуковы патэнцыял, умацоўвалася абараназдольнасць, павышаўся ўзровень дабрабыту людзей. Былі ажыццёўлены многія знешнепалітычныя акцыі, якія ўмацавалі міжнародны аўтарытэт нашай дзяржавы. Забяспечаны ваенна-стратэгічны парытэт з ЗША.

Краіна мела вялікія магчымасці для далейшага паскарэння свайго развіцця. Але для таго, каб выкарыстаць гэтыя магчымасці, прывесці іх у дзеянне, патрэбны былі новыя кардынальныя перамены ў грамадстве і, вядома, адпаведная палітычная воля. Ні таго, ні другога не хапіла. І нават многае з таго, што было вырашана, засталося на паперы, павісла ў паветры. Тэмпы нашага развіцця сур'ёзна замарудзіліся.

На красавіцкім (1985 года) Пленуме ЦК, XXVII з'ездзе партыя адкрыта назвала прычыны ўзнікшай сітуацыі, раскрыла механізм тармажэння нашага развіцця і дала яму прынцыповую ацэнку.

Было падкрэслена, што ў апошнія гады жыцця і дзейнасці Л. І. Брэжнева пошук шляхоў далейшага руху наперад у многім стрымлівала прыхільнасць да прывычных формул і схем, якія не адлюстроўвалі новых рэальнасцей. Узмацніўся разрыў паміж словам і справай. Нарасталі негатыўныя працэсы ў эканоміцы, што стварылі па сутнасці перадкрызісную сітуацыю. Узніклі многія анамальныя з'явы ў сацыяльнай і духоўна-маральнай сферы, якія скажалі, дэфарміравалі прынцыпы сацыялістычнай справядлівасці, падрывалі ў народзе веру ў яе, параджалі сацыяльнае адчужэнне і амаралізм у розных яго формах. Растучае разыходжанне паміж высокімі прынцыпамі сацыялізму і штодзённай рэальнасцю жыцця стала нецярпімым.

Здаровыя сілы ў партыі і ў грамадстве ў цэлым усё больш востра адчувалі настойлівую патрэбнасць і неабходнасць пераадолець негатыўныя з'явы, пераламаць ход падзей, забяспечыць паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, дабіцца маральнага ачышчэння і абнаўлення сацыялізму.

Адказам на гэту вастрэйшую грамадскую патрэбнасць і з'явіліся вызначаныя красавіцкім (1985 года) Пленумам ЦК канцэпцыя і стратэгія паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, курс на абнаўленне сацыялізму, якія атрымалі тэарэтычнае і палітычнае развіццё ў рашэннях XXVII з'езда, наступных Пленумаў ЦК і аформіліся ў генеральную лінію рэвалюцыйнай перабудовы ўсіх бакоў жыцця сацыялістычнага грамадства.

## II. Развіццё сацыялізму і перабудова

Таварышы! Да вываду аб неабходнасці перабудовы нас прывялі вострыя і неадкладныя патрэбнасці. Але чым глыбей мы ўнікалі ў на[illegible] праблемы, разумелі іх сэнс, тым [illegible]й станавілася, што перабудова мае [illegible] больш шырокі грамадска-палітычны і гістарычны кантэкст.

Перабудова — не толькі пазбаўленне ад застойнасці і кансерватызму папярэдняга перыяду, выпраўленне допушчаных памылак, але і пера[illegible]ленне гістарычна абмежаваных, зж[illegible]шых сябе рыс грамадскай арганізацыі і метадаў работы. Гэта наданне сацыялізму самых сучасных форм, адпавядаючых умовам і патрэбнасцям навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, інтэлектуальнаму прагрэсу савецкага грамадства. Гэта параўнальна працяглы працэс рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, які мае сваю логіку і этапы.

Гістарычную задачу сацыялізму Ленін бачыў у тым, каб работай доўгага рада гадоў падрыхтаваць пераход да камунізму. Правадыр рэвалюцыі высока цаніў уменне Маркса і Энгельса «з надзвычайнай стараннасцю... аналізаваць іменна пераходныя формы, каб улічыць, у залежнасці ад канкрэтна-гістарычных асаблівасцей кожнага асобнага выпадку, пераходам **ад чаго да чаго** даная пераходная форма з'яўляецца». Словам, нашы настаўнікі шматразова папярэджвалі, што шлях будаўніцтва новага грамадства — гэта доўгі рад пераходаў.

Мы маем усе падставы глянуць на перабудову як на пэўны гістарычны этап у паступальным прагрэсе нашага грамадства. І адказваючы на ленінскае пытанне, «ад чаго да чаго» мы пераходзім, трэба сказаць зусім ясна: нам неабходна надаць сацыялізму новую якасць, як кажуць, другое дыханне, а для гэтага ажыццявіць глыбокае абнаўленне ўсіх бакоў жыцця грамадства — як матэрыяльнага, так і духоўнага, найбольш поўна раскрыць гуманістычны характар нашага ладу.

Мэта перабудовы — тэарэтычна і практычна поўнасцю аднавіць ленінскую канцэпцыю сацыялізму, у якой бясспрэчны прыярытэт — за чалавекам працы з яго ідэаламі, інтарэсамі, за гуманістычнымі каштоўнасцямі ў эканоміцы, сацыяльных і палітычных адносінах, культуры.

Наша надзея на рэвалюцыйнае ачышчэнне і адраджэнне заключаецца ў тым, каб раскрыць велізарныя сацыяльныя рэсурсы сацыялізму праз актывізацыю асобы, чалавечага фактару. У выніку перабудовы сацыялізм можа і павінен у поўнай меры рэалізаваць свае магчымасці як лад рэальнага гуманізму, які служыць чалавеку і ўзвышае яго. Гэта грамадства для людзей—для росквіту іх творчай працы, дабрабыту, здароўя, фізічнага і духоўнага развіцця, грамадства, дзе чалавек адчувае сябе паўнапраўным гаспадаром і на справе з'яўляецца ім.

Дзве ключавыя праблемы развіцця грамадства вызначаюць лёс перабудовы. Гэта дэмакратызацыя ўсяго грамадскага жыцця і радыкальная эканамічная рэформа.

Пасля красавіцкага Пленума ЦК КПСС прайшло два з палавінай гады. Што нам удалося зрабіць? На якім рубяжы мы знаходзімся? Думаю, такія пытанні і дарэчы, і непазбежны на сённяшнім урачыстым пасяджэнні.

Агульны вывад наконт гэтага толькі што завершанага Пленума ЦК КПСС такі: мы перажываем пераломны момант. У асноўным завершаны першы этап работы па перабудове. На аснове глыбокага аналізу становішча і перспектыў развіцця краіны выпрацавана канцэпцыя перабудовы. У краіне створана новая палітычная, маральна-псіхалагічная абстаноўка. Партыі ўдалося ўзняць зацікаўленасць людзей у грамадскіх справах, іх актыўнасць, павысіць узровень патрабавальнасці, крытыкі і самакрытыкі, публічнасці, стварыць прадпасылкі для рэальных перамен у мысленні і настроях людзей.

Галоўнае, што вызначае пазіцыю большасці савецкіх людзей на гэтым этапе,— падтрымка перабудовы, патрабаванне таго, каб яна няўхільна рухалася наперад. Рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя з разуменнем адносяцца да неабходнасці павысіць дысцыпліну, эфектыўнасць, якасць працы. На заводах і будоўлях, у калгасах і саўгасах, навукова-даследчых арганізацыях ідзе напружаны пошук новых форм арганізацыі і аплаты працы. Людзі цяпер становяцца больш патрабавальнымі і да сябе, і да кіраўнікоў, спецыялістаў, рашуча выступаюць супраць безгаспадарчасці і безадказнасці. Гэту грамадзянскую пазіцыю працоўных мы высока цэнім, разглядаем яе як несумненную і важную падтрымку курсу партыі на перабудову.

Ёсць падставы гаварыць і аб некаторых станоўчых зрухах у практычных справах, перш за ўсё ў сацыяльна-эканамічнай сферы. Узраслі тэмпы росту вытворчасці. Намеціліся якасныя змяненні ў эканоміцы, рэалізуюцца буйнейшыя навукова-тэхнічныя праграмы, мадэрнізуецца айчыннае машынабудаванне. Стала больш устойліва развівацца сельская гаспадарка, асабліва жывёлагадоўля.

Усе вы ведаеце, таварышы, якія неспрыяльныя пагодныя ўмовы склаліся ў гэтым годзе ў большасці раёнаў краіны. І тым не менш нам удалося сабраць ураджай збожжа больш чым 210 мільёнаў тон. Гэта — вынік велізарных намаганняў нашага народа, партыі, якая ўзняла яго на работу па-новаму!

Пачатае аздараўленне эканомікі дазволіла прыступіць да рэалізацыі буйных мер у сацыяльнай сферы. Прыметна ўзраслі маштабы жыллёвага будаўніцтва, расшыраецца сфера паслуг. Растуць даходы працоўных. Павышана заработная плата настаўнікам і ўрачам.

(Працяг на 6—7-й стар.).

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

(Працяг. Пачатак на 2—3-й стар.).

Рэалізуюцца буйныя праграмы ў галіне адукацыі і медыцынскага абслугоўвання насельніцтва.

І ўсё ж гэта толькі пачатак. Цяпер мы можам гаварыць аб уступленні ў новы этап перабудовы, калі ўся наша палітыка, усе нашы рашэнні трансфармуюцца ў канкрэтныя справы, увасабляюцца ў жыццё. Гэта патрабуе велізарных намаганняў усяго народа — рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, усіх нашых кадраў. Цяпер ужо само жыццё будзе правяраць ідэі, планы, падыходы і метады работы.

Ва ўсім сёння адчуваецца нарастаючая напружанасць жыцця. Але гэта напружанасць стварэння, актыўнай працы, палітычнай і інтэлектуальнай дзейнасці. Добрае напружанне, таварышы, мабілізуючае.

Хацелася б падкрэсліць, што з гэтага пункту погляду найбольш складанымі, рашаючымі, у пэўным сэнсе крытычнымі будуць наступныя два, можа, тры гады. Перш за ўсё таму, што трэба будзе адначасова вырашаць буйнамаштабныя задачы і ў эканоміцы, і ў сацыяльнай сферы, і ў перабудове дзяржаўнага і грамадскага кіравання, і ў ідэалогіі і культуры.

У эканоміцы неабходна ажыццявіць глыбокія структурныя зрухі, дабіцца пералому ў паскарэнні навукова-тэхнічнага прагрэсу, правесці ў асноўным перабудову гаспадарчага механізма і зрабіць, такім чынам, рашаючы крок у пераводзе народнай гаспадаркі на рэйкі інтэнсіфікацыі.

Складанасць будучага перыяду і ў тым, што пераўтварэнні будуць закранаць інтарэсы ўсё большай масы людзей, сацыяльных груп і слаёў насельніцтва, усіх кадраў. Мы ўпэўнены, што абстаноўку ў краіне будуць і ў далейшым вызначаць шырокая падтрымка працоўнымі перабудовы, глыбокае разуменне неабходнасці перамен, энергічнага прадаўжэння перабудовы, нягледзячы на пэўныя цяжкасці на гэтым шляху.

Але было б няправільна не бачыць пэўнага ўзмацнення супраціўлення кансерватыўных сіл, якія бачаць у перабудове пагрозу сваім карыслівым інтарэсам і мэтам. І гэта праяўляецца не толькі ў тых або іншых звеннях кіравання, але і ў працоўных калектывах. Наўрад ці можна сумнявацца і ў тым, што сілы кансерватызму не прамінуць выкарыстаць любыя цяжкасці, каб паспрабаваць дыскрэдытаваць перабудову, выклікаць нездавальненне працоўных. Сёй-той ужо сёння лічыць за лепшае весці падлік промахаў замест таго, каб закасаўшы рукавы змагацца з недахопамі, шукаць новыя рашэнні. Пры гэтым, вядома, ніхто не гаворыць, што ён супраць перабудовы. Не, хутчэй ён выступае барацьбітом з яе выдаткамі, заступнікам ідэйных асноў, якія нібыта могуць быць пахіснуты растучай актыўнасцю мас.

Але колькі ж можна, таварышы, палохаць нас усялякімі выдаткамі! Вядома, выдаткі непазбежныя ў любой справе, тым больш у новай. Але вынікі таптання на месцы, застою і абыякавасці куды больш значныя і даражэйшыя, чым выдаткі, якія на нейкі час узнікаюць у працэсе творчага стварэння новых форм грамадскага жыцця.

Трэба вучыцца распазнаваць, выводзіць на чыстую ваду, нейтралізаваць манеўры праціўнікаў перабудовы — тых, хто тармозіць справу, устаўляе палкі ў колы, зларадніча наконт цяжкасцей і няўдач, хто спрабуе цягнуць нас у мінулае. Мы не павінны паддавацца націску і з боку празмерна заўзятых і нецярплівых — тых, хто не жадае лічыцца з аб'ектыўнай логікай перабудовы, выказвае нездаволенасць марруднымі, як яны лічаць, тэмпамі пераўтварэнняў, тым, што яны нібыта не прыносяць хутка неабходных вынікаў. Павінна быць ясна — нельга пераскокваць цераз этапы і спрабаваць усё зрабіць адным махам.

Перабудова працягвае справу рэвалюцыі. І сёння [illegible]не неабходна ўменне ў дасканаласці [illegible]одаць зброяй рэвалюцыйнай вытрымкі. Гэта вытрымка не ў тым, каб сядзець на месцы або плыць па цячэнню. Яна — у здольнасці рэалістычна ацэньваць абстаноўку, не пасаваць перад цяжкасцямі, не панікаваць, не губляць галаву ні ад поспехаў, ні ад няўдач,— у здольн[illegible] напружана і мэтанакіравана працав[illegible] кожны дзень, кожную гадзіну, усюды і ва ўсім знаходзіць, праводзіць аптымальныя рашэнні, якія дыктуе само жыццё.

## III. Вялікі Кастрычнік і сучасны свет

Таварышы! Свет не быў бы такім, якім мы яго бачым цяпер, калі б не вялікая рэвалюцыя ў Расіі. Да гэтага павароту ў сусветнай гісторыі «права» моцнага і багатага, як і захопніцкія войны, былі прывычнай нормай міжнародных адносін. Савецкая ўлада, першым заканадаўчым актам якой быў славуты Дэкрэт аб міры, павяла барацьбу супраць такога парадку рэчаў. Краіна Саветаў унесла ў міжнародную практыку тое, што раней знаходзілася за межамі «вялікай палітыкі»: разважны народны сэнс і інтарэсы працоўных мас.

У тыя нядоўгія гады, калі савецкай знешняй палітыкай кіраваў Ленін, ён не толькі выпрацаваў яе адпраўныя прынцыпы, але і паказаў, як іх прымяняць у самай незвычайнай і рэзка зменлівай абстаноўцы. На самай справе, насуперак першапачатковым чаканням, разрыў найбольш «слабага звяна» капіталістычнай сістэмы быў не «апошнім рашучым боем», а пачаткам доўгага і складанага працэсу.

Найвялікшая заслуга заснавальніка Савецкай дзяржавы заключалася ў тым, што ён своечасова ўбачыў рэальную перспектыву, якая адкрывалася перад новай Расіяй у выніку пераможнага заканчэння грамадзянскай вайны. Краіна здолела, паводле яго думкі, атрымаць не толькі «перадышку», а нешта значна большае — «новую паласу, калі наша асноўнае міжнароднае існаванне ў сетцы капіталістычных дзяржаў адваявана». І Ленін рашуча прапанаваў курс — вучыцца і навучыцца працягламу «супольнаму жыццю» з імі. У процівагу леваму экстрэмізму ён абгрунтаваў магчымасць мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам.

Усяго паўтара-два гады пасля грамадзянскай вайны запатрабавалася, каб вывесці рабоча-сялянскую дзяржаву са знешнепалітычнай ізаляцыі. Заключаны дагаворы з сумежнымі краінамі, затым з Германіяй у Рапала. Савецкую Рэспубліку дыпламатычна прызналі Англія, Францыя, Італія, Швецыя, іншыя капіталістычныя дзяржавы. Зроблены былі першыя крокі ў наладжванні раўнапраўных адносін з дзяржавамі Усходу — Кітаем, Турцыяй, Іранам, Афганістанам.

Усё гэта — не проста першыя перамогі ленінскай знешняй палітыкі і дыпламатыі. Гэта быў выхад на прынцыпова новае міжнароднае развіццё. Быў пракладзены кардынальны напрамак нашай міжнароднай палітыкі, які мы па праву называем ленінскім курсам на мір, узаемавыгаднае супрацоўніцтва дзяржаў і дружбу народаў.

Зразумела, не ўся наша знешнепалітычная работа ў далейшым складалася з адных поспехаў і дасягненняў. Былі і пралікі. Не заўсёды і не ва ўсім— і да, і пасля другой сусветнай вайны— удавалася выкарыстаць узнікаўшыя магчымасці. Велізарны маральны аўтарытэт, з якім выйшаў з вайны Савецкі Саюз, мы не змаглі рэалізаваць, каб кансалідаваць міралюбівыя, дэмакратычныя сілы і спыніць арганізатараў «халоднай вайны». Не заўсёды адэкватнай была наша рэакцыя на правакацыйныя дзеянні імперыялізму.

Так, штосьці можна было зрабіць лепш, дзейнічаць больш эфектыўна. Тым не менш у гэты ўрачысты час мы можам заявіць: прынцыповая лінія нашай палітыкі нязменна прытрымлівалася генеральнага напрамку, які выпрацаваў і праклаў Ленін, г. зн. у адпаведнасці з прыродай сацыялізму, з яго прынцыповай арыентацыяй на мір.

І ў рашаючай ступені іменна дзякуючы гэтаму ўдалося прадухіліць развязванне ядзернай вайны, не даць імперыялізму выйграць «халодную вайну». Разам са сваімі саюзнікамі мы нанеслі паражэнне імперыялістычнай стратэгіі «адкідвання сацыялізму». Імперыялізму прыйшлося зменшыць свае дамаганні на сусветнае панаванне. На новым этапе іменна на выніку сваёй міралюбівай палітыкі мы змаглі абаперціся, выпрацоўваючы новыя падыходы ў духу новага мыслення.

Ленінская канцэпцыя мірнага суіснавання, натуральна, зведвала змяненні. Спачатку яно абгрунтоўвалася перш за ўсё неабходнасцю стварыць мінімальныя знешнія ўмовы для будаўніцтва новага грамадства ў краіне сацыялістычнай рэвалюцыі. Але, з'яўляючыся працягам класавай палітыкі перамогшага пралетарыяту, мірнае суіснаванне ў далейшым і асабліва ў ядзерны век ператварылася ва ўмову выжывання ўсяго чалавецтва.

Рубяжом у развіцці ленінскай думкі і на гэтым напрамку таксама стаў красавіцкі Пленум ЦК КПСС 1985 года. У разгорнутым выглядзе новую знешнепалітычную канцэпцыю даў XXVII з'езд. Зыходным пунктам яе, як вядома, з'яўляецца наступная ідэя: нягледзячы на глыбокую супярэчлівасць сучаснага свету і карэнныя адрозненні дзяржаў, яго складаючых, ён узаемазвязаны, узаемазалежны і з'яўляецца пэўнай цэласнасцю.

Гэта абумоўлена інтэрнацыяналізацыяй светагаспадарчых сувязей, усеахопным характарам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, прынцыпова новай роляй сродкаў інфармацыі і камунікацыі, станам рэсурсаў планеты, агульнай экалагічнай небяспекай, страшэннымі сацыяльнымі праблемамі стаўшага на шлях развіцця свету, якія закранаюць усіх. Але галоўнае — узнікненнем праблемы выжывання чалавечага роду, бо паяўленне і пагроза прымянення ядзернай зброі паставілі пад сумненне само яго існаванне.

Так ленінская ідэя прыярытэту інтарэсаў грамадскага развіцця атрымала новы сэнс і значэнне.

Пачынаючы з красавіцкага Пленума, мы дастаткова ясна сказалі ўсім аб тым, як мы ўяўляем сабе рух да бяспечнага, трывалага міру. Нашы намеры і наша воля зафіксаваны ў рашэннях вышэйшага палітычнага форуму партыі — XXVII з'езда, у новай рэдакцыі Праграмы КПСС, у праграме ядзернага раззбраення, выкладзенай у Заяве ад [illegible] студзеня 1986 года, у Дэлійскай дэк[illegible]цыі і іншых дакументах, афіцыяльных выступленнях кіруючых дзеячаў Савецкага Саюза.

Сумесна з краінамі сацыялістычнай садружнасці мы выступілі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з радам буйных Ініцыятыў, у тым ліку — з пр[illegible]ам стварэння ўсеабдымнай сістэмы [illegible]кнароднага міру і бяспекі. Дзяржавы Варшаўскага Дагавора звярнуліся да НАТО, да ўсіх еўрапейскіх краін з прапановай скараціць узброеныя сілы і ўзбраенні да ўзроўню разумнай дастатковасці. Запрасілі зрабіць супастаўленне ваенных дактрын абодвух саюзаў з мэтай надання ім выключна абароннай накіраванасці. Выступілі з канкрэтным планам і актыўна дабіваюцца забароны і ліквідацыі хімічнай зброі. Праявілі ініцыятыву ў галіне арганізацыі эфектыўных метадаў кантролю за скарачэннем узбраенняў, уключаючы інспекцыю на месцах.

Мы рашуча выступілі за ўмацаванне аўтарытэту ААН, за паўнацэннае і дзейснае выкарыстанне правоў, уручаных ёй і яе органам міжнародным супольніцтвам. Робім усё, што ад нас залежыць, каб ААН — гэты універсальны механізм — магла паўнамоцна абмяркоўваць і забяспечваць калектыўны пошук балансу інтарэсаў усіх дзяржаў, эфектыўна выконваць свае міратворчыя функцыі.

Самае галоўнае заключаецца ў тым, што наша канцэпцыя і цвёрдая ўстаноўка на мір знайшлі адлюстраванне ў справах, ва ўсіх нашых паводзінах на міжнароднай арэне, у самім стылі знешнепалітычнай і дыпламатычнай работы, якая пранізана імкненнем да дыялога — адкрытага і сумленнага, які б улічваў узаемныя заклапочанасці і вывады сусветнай навукі, без спроб кагосьці абыграць або падмануць. Так што, пасля гэтых двух з лішнім гадоў мы з упэўненасцю гаворым: новае палітычнае мысленне — гэта не проста дэкларацыя і заклік, а філасофія дзеяння, калі хочаце — філасофія жыцця. Яна працягвае развівацца разам з ходам аб'ектыўных працэсаў у свеце. І яна ўжо працуе.

Сярод падзей пачатага новага этапу ў міжнародным развіцці, якія ў гэты дзень заслугоўваюць быць упамянутымі і застануцца ў гісторыі,— сустрэча ў Рэйк'явіку ў кастрычніку 1986 года. Яна надала новаму мысленню практычную энергію, дазволіла яму ўмацавацца ў самых розных грамадскіх і палітычных колах, а міжнародныя палітычныя кантакты зрабіла больш рэзультатыўнымі.

Новае мысленне з яго агульначалавечымі крытэрыямі, арыентацыяй на розум і адкрытасць пачало прабіваць дарогу ў сусветныя справы, разбураючы стэрэатыпы антысаветызму і падазронасці да нашых ініцыятыў і дзеянняў.

Зразумела, калі мераць маштабамі задач, якія сучаснаму чалавецтву трэба будзе вырашыць, каб забяспечыць выжыванне, зроблена яшчэ вельмі, вельмі мала. Але пачатак пакладзены, і першыя адзнакі перамен у наяўнасці. Адным з пераканаўчых гэтаму пацвярджэнняў з'яўляецца дагаворанасць са Злучанымі Штатамі Амерыкі аб заключэнні ў бліжэйшы час пагаднення па ракетах сярэдняй дальнасці і аператыўна-тактычных ракетах.

Заключэнне гэтага пагаднення мае вялікае самастойнае значэнне: будзе ўпершыню ліквідаваны цэлы клас ядзерных узбраенняў, зроблены першы рэальны крок на шляху знішчэння ядзерных арсеналаў, паказана на справе, што можна рухацца ў гэтым напрамку, нікому не наносячы ўрону.

Гэта, безумоўна, важны поспех новага мыслення, плён нашай гатоўнасці, строга абараняючы прынцып роўнай бяспекі, шукаць узаемапрымальныя развязкі.

Аднак пытанне аб гэтым пагадненні было ў асноўным вырашана яшчэ ў Рэйк'явіку, на нашай другой сустрэчы з прэзідэнтам.

Ад трэцяй і чацвёртай сустрэч вышэйшых кіраўнікоў СССР і ЗША ў такі адказны перыяд свет чакае большага, чым проста фармальная фіксацыя таго, аб чым дагаварыліся год назад, і не толькі працягу дыскусіі. Прыспешвае і час, нарастаючая небяспека ўдасканалення зброі, што можа выйсці з-пад кантролю.

Вось чаму мы будзем настойліва дабівацца на гэтых сустрэчах адчувальнага зруху, канкрэтных вынікаў у ключавым пытанні ліквідацыі ядзернай пагрозы — у пытанні аб скарачэнні стратэгічных наступальных сродкаў і недапушчэнні выхаду зброі ў космас.

Якія ж усё-такі ў нас падставы для аптымізму, для таго, каб лічыць усеабдымную бяспеку сапраўды магчымай? На гэтым варта затрымацца.

Адзначаючы 70-годдзе нашай рэвалюцыі, якая не перамагла б, калі б не была падрыхтавана тэарэтычна, мы і цяпер, на новым пераломе сусветнай гісторыі, тэарэтычна прапрацоўваем перспектывы руху наперад да ўстойлівага міру. З дапамогай новага мыслення мы ў асноўным абгрунтавалі патрэбнасць і магчымасць усеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі ва ўмовах раззбраення. Цяпер трэба даказаць неабходнасць і рэальнасць ісці і прыйсці да гэтай мэты. Выявіць заканамернасці ўзаемадзеяння сіл, якія ў барацьбе, у супярэчнасцях, у сутыкненнях інтарэсаў могуць даць шукаемы вынік. І ў гэтай сувязі мы перш за ўсё — зноў жа з пазіцый нашага ленінскага вучэння, карыстаючыся яго метадалогіяй, — павінны задаць сабе цяжкія пытанні.

Першае адносіцца да прыроды імперыялізму. У ёй, як вядома, караніцца галоўная ваенная небяспека. Прырода грамадскага ладу, вядома, не можа быць зменена пад уплывам знешніх умоў. Але ці магчыма ў цяперашняй фазе сусветнага развіцця, на новым узроўні ўзаемазалежнасці і цэласнасці свету такое ўздзеянне на гэту прыроду, якое блакіравала б найбольш небяспечныя яе праяўленні? Інакш кажучы, ці можна разлічваць на тое, што заканамернасці цэласнага свету, у якім агульначалавечыя каштоўнасці з'яўляюцца галоўным прыярытэтам, змогуць абмежаваць дыяпазон разбуральнага дзеяння эгацэнтрычных, вузкакласавых заканамернасцей капіталістычнай сістэмы?

Другое пытанне. Яно звязана з першым: ці ў стане капіталізм вызваліцца ад мілітарызму, ці можа ён эканамічна функцыяніраваць і развівацца без яго? І ці не ўтапічная наша прапанова краінам Захаду падрыхтаваць і супаставіць праграмы рэканверсіі эканомікі, гэта значыць пераводу яе на мірныя рэйкі?

Трэцяе пытанне. Ці можа абысціся капіталістычная сістэма без неакаланіялізму, які з'яўляецца адной з крыніц яе цяперашняга жыццезабеспячэння? Інакш кажучы, ці ў стане гэта сістэма функцыяніраваць без неэквівалентнага абмену з «трэцім светам», які тоіць у сабе непрадказальныя вынікі?

І побач з гэтымі яшчэ адно пытанне.

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Наколькі рэалістычнай з'яўляецца надзея на тое, што разуменне катастрафічнай небяспекі, у якой знаходзіцца свет, — а яно, мы ведаем, пранікае нават у верхнія эшалоны кіруючай эліты заходняга свету — пяройдзе ў практычную палітыку? Бо якімі б моцнымі ні былі аргументы розуму, як бы ні было развіта пачуццё адказнасці, якім бы ні быў вялікім інстынкт самазахавання, ёсць рэчы, якія ніяк нельга недаацэньваць і якія вызначаюцца эканамічным, а значыць, і класавым інтарэсам.

Інакш кажучы, гутарка ідзе аб тым, ці зможа капіталізм адапціравацца да ўмоў бяз'ядзернага і раззброенага свету, умоў новага, справядлівага эканамічнага парадку, умоў сумленнага супастаўлення духоўных каштоўнасцей двух светаў? Гэта далёка не пустыя пытанні. Ад адказу на іх залежыць, як будуць разгортвацца гістарычныя падзеі ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі.

Але дастаткова паставіць хаця б адны гэтыя пытанні, каб убачыць усю сур'ёзнасць задачы. Адказы дасць жыццё. Правільнасць жа самой праграмы бяз'ядзернага і бяспечнага свету будзе правярацца не толькі бездакорнасцю яе навуковага абгрунтавання. Яна будзе правярацца ходам падзей, які падвяргаецца ўздзеянню самых розных і новых сіл.

І ўжо правяраецца. І тут мы таксама верныя ленінскай традыцыі, самой сутнасці ленінізму. А іменна — арганічнаму сплаву тэорыі і практыкі, падыходу да тэорыі як да сродку практыкі і да практыкі — як да кантрольнага механізма правільнасці тэорыі. Так мы і дзейнічаем, пераводзячы новае мысленне ў знешнепалітычную дзейнасць, карэкціруючы, удакладняючы яго вопытам, атрыманым з рэальнай палітыкі.

Такім чынам: на што мы разлічваем, ведаючы, што будавацы бяспечны свет прыйдзецца разам з капіталістычнымі краінамі?

Пасляваенны перыяд даў сведчанні глыбокай мадыфікацыі супярэчнасцей, якія вызначалі галоўныя працэсы сусветнай эканомікі і палітыкі. Я маю на ўвазе, перш за ўсё, такое іх развіццё, якое ў мінулым няўмольна прыводзіла да вайны, да сусветных войнаў паміж самімі капіталістычнымі дзяржавамі.

Цяпер сітуацыя іншая. Не толькі урокі мінулай вайны, але і боязь аслабіць сябе перад сацыялізмам, які стаў сусветнай сістэмай, не дазвалялі капіталізму даводзіць свае ўнутраныя супярэчнасці да крайняй мяжы. Яны сталі трансфармавацца ў тэхналагічную гонку адна з адной, «разраджаліся» з дапамогай неакаланіялізму. Адбываўся свайго роду новы, «мірны» перадзел свету — па таму ж правілу, якое выявіў Ленін,—«па капіталу», гэта значыць хто багацейшы, мацнейшы на даны момант, таму і большая доля. У радзе краін напружанне ў эканоміцы сталі «знімаць» шляхам перакачкі сродкаў у ваенна-прамысловы комплекс пад выглядам «савецкай пагрозы». Уладжваць супярэчнасці, балансаваць інтарэсы дапамагалі таксама і пераўтварэнні, якія адбываліся ў тэхналагічнай і арганізацыйнай аснове капіталістычнай гаспадаркі.

Але справа не толькі ў гэтым. Калі ў мінулым перад наяўнасцю фашысцкай пагрозы стаў магчымы саюз сацыялістычнай і капіталістычных дзяржаў, то хіба з гэтага не вынікае пэўны ўрок для сучаснага, калі ўвесь свет аказаўся перад пагрозай ядзернай катастрофы, перад неабходнасцю забяспечыць бяспеку ядзернай энергетыкі, пераадолець экалагічную небяспеку? Усё гэта — зусім рэальныя і грозныя рэчы, якія патрабуюць не толькі іх усведамлення, але пошуку практычных рашэнняў.

Далей. Ці можа капіталістычная эканоміка развівацца без мілітарызацыі? Тут прыходзіць на памяць «эканамічны цуд» у Японіі, Заходняй Германіі, Італіі. Праўда, калі «цуд» скончыўся, яны зноў звярнуліся да мілітарызму. Аднак трэба разабрацца, наколькі гэты паварот быў абумоўлены сутнаснымі законамі функцыяніравання сучаснага манапалістычнага капіталу і якую ролю адыгралі пабочныя моманты: «заразлівы прыклад» ваенна-прамысловага комплексу Злучаных Штатаў, абстаноўка «халоднай вайны», прэстыжныя меркаванні, патрэбнасць мець уласны «ваенны кулак», каб размаўляць з канкурэнтамі на зразумелай у гэтым асяроддзі мове, а таксама жаданне падмацаваць сваё эканамічнае ўварванне ў «трэці свет» сілавой палітыкай. Як бы там ні было, перыяд хуткага развіцця сучаснай капіталістычнай эканомікі ў радзе краін пры мінімальных ваенных расходах меў месца. І вопыт яго застаўся ў багажы гісторыі.

Можна падысці да праблемы і з другога боку — як бы ад процілеглага. Эканоміка Злучаных Штатаў з часоў вайны была нязменна арыентавана і апіралася на мілітарызм. Спачатку гэта быццам бы яе стымулявала. Але потым такая бескарысная і непатрэбная грамадству растрата рэсурсаў прывяла да астранамічнага дзяржаўнага доўгу і іншых бед і заган. Аказалася, што звышмілітарызацыя ў канчатковым выніку вядзе да нарастаючага абвастрэння становішча ў самой гэтай краіне і ліхаманіць эканоміку іншых. Нядаўняя, беспрэцэдэнтная амаль за 60 гадоў, паніка на нью-йоркскай і іншых біржах свету — сур'ёзны сімптом, сур'ёзная перасцярога.

Трэці момант — незквівалентныя, эксплуататарскія адносіны з краінамі, якія сталі на шлях развіцця. Нягледзячы на ўсе фантастычныя новаўвядзенні ў галіне стварэння «другой» (штучнай) прыроды, развіты капіталізм не змог і не зможа абысціся без рэсурсаў гэтых краін. Гэта — аб'ектыўная рэальнасць.

Стаўка на разбурэнне гістарычна існуючых светагаспадарчых сувязей з'яўляецца небяспечнай і выхаду не дасць. Але і карыстанне чужымі рэсурсамі неакаланіялісцкімі метадамі, самавольства транснацыянальных карпарацый, пазыковая кабала, трыльённыя, яўна неаплатныя даўгі заводзяць у тупік. Гэта параджае сур'ёзныя праблемы і ўнутры саміх капіталіс[illegible]ных краін. Спекуляцый тут хоць адб[illegible]й. А сутнасць іх у тым, каб зрабіць «[illegible]рэці свет» своеасаблівым казлом адпушчэння за многія цяжкасці, у тым ліку — за зніжэнне жыццёвага ўзроўню ў метраполіях капіталу.

Раз-пораз робяцца спробы на шавіністычнай аснове «згуртаваць нацыю», «уцягнуць пр[illegible]ўных у партнёрства» па эксплуатацы[illegible]ых краін і адначасова прымусіць іх змірыцца з палітыкай новай капіталістычнай мадэрнізацыі. Аднак ніякія падобныя і іншыя хітрыкі не знімаюць самой праблемы, толькі іншы раз часова прыглушаюць яе. Неэквівалентны абмен застаецца і вядзе ў рэшце рэшт да выбуху. Магчымасць такога зыходу, здаецца, пачынаюць разумець лідэры Захаду. І шукаюць выхаду пакуль у розных паліятывах.

Сапраўды, навізна міжнародных эканамічных і палітычных працэсаў нашага часу яшчэ не да канца ўсвядомлена і асвоена. Але да гэтага прыйдзецца ісці, таму што распачатыя працэсы валодаюць сілай аб'ектыўнага закона. Або крах, або сумесны пошук новага эканамічнага парадку, пры якім улічваліся б інтарэсы і тых, і другіх, і трэціх — на раўнапраўнай аснове. Шлях да ўстанаўлення такога парадку, як уяўляецца цяпер, прагледжваецца: гэта — рэалізацыя канцэпцыі «раззбраенне для развіцця».

Так што ў пошуках адказу і на наша трэцяе пытанне мы бачым: сітуацыя не выглядае невырашальнай. І ў гэтай сферы супярэчнасці паддаюцца мадыфікацыі. Але для гэтага трэба зразумець рэальнасці і выстраіць практычныя дзеянні ў духу новага мыслення. А гэта ў сваю чаргу аблягчыць рух да больш бяспечнага свету. Словам, і тут — гістарычны выбар, які дыктуецца заканамернасцямі ў многім узаемазвязанага і цэласнага свету.

Ёсць яшчэ адна важнейшая, нават рашаючая акалічнасць. Састаўной часткай гэтага свету з'яўляецца сацыялізм. Пачаўшы сваю гісторыю 70 гадоў назад, а затым ператварыўшыся ў сусветную сістэму, ён вызначыў аблічча XX стагоддзя. Цяпер ён выходзіць на новы этап свайго развіцця, зноў дэманструючы закладзеныя ў ім магчымасці.

Можна, напрыклад, уявіць сабе, які бурны рэзерв мірнага суіснавання крыецца ў адной толькі перабудове ў Савецкім Саюзе. Забяспечыўшы нам выхад на сусветны ўзровень па ўсіх важнейшых эканамічных паказчыках, яна дасць магчымасць велізарнай і багацейшай краіне так уключыцца ў сусветны падзел працы і рэсурсаў, як гэтага ніколі яшчэ не было. Яе вялікі навуковы, тэхнічны, вытворчы патэнцыял стане істотна больш значнай часткай светагаспадарчых сувязей. І гэта рашаючым чынам расшырыць і ўмацуе матэрыяльную базу ўсеабдымнай сістэмы міру і міжнароднай бяспекі. Такі, дарэчы, яшчэ адзін важнейшы аспект перабудовы, прызначанае ёй месца ў лёсах сучаснай цывілізацыі.

Уплыў на аб'ектыўныя працэсы на карысць міру будуць аказваць класавая барацьба, іншыя праяўленні сацыяльных супярэчнасцей.

Перадавыя сілы рабочага руху шукаюць шляхі да ўздыму яго палітычнага ўзроўню. Ім прыходзіцца дзейнічаць у вельмі няпростай, новай і зменлівай абстаноўцы. Па-іншаму паўсталі не толькі пытанні аховы эканамічных правоў і інтарэсаў мас, але і барацьбы за дэмакратыю, у тым ліку — дэмакратыю на вытворчасці. Напрыклад, нярэдка рабочым прапануюць «партнёрства», але такое, калі наглуха закрыты доступ у святая святых бізнесу і калі і размовы не можа быць аб свабодным выбары кіруючага персаналу.

Заходні свет поўны «тэорый» аб тым, што рабочы клас знікае, быццам ён ужо зусім растварыўся ў «сярэднім слоі», сацыяльна перарадзіўся і г. д. і да т. п. Так, перамены ў рабочым класе вялікія, істотныя. Але дарэмна класавы праціўнік заспакойвае сябе і спрабуе дэзарыентаваць, збіць з толку сам рабочы рух. Рабочы клас, прадстаўляючы цяпер у сваіх новых сацыяльных межах колькасна пераважную сілу, мае патэнцыял адыграць рашаючую ролю, тым больш на крутых паваротах гісторыі.

Пабуджальныя матывы могуць быць розныя. І адзін з верагодных — вар'яцкая мілітарызацыя эканомікі. Пераход да новай фазы тэхналагічнай рэвалюцыі на мілітарысцкай аснове — моцны каталізатар, тым больш, што [illegible] — шляхі да вайны, а значыць закран[illegible] усе слаі насельніцтва, расшырае рамкі масавага пратэсту за межы эканамічных патрабаванняў. Так што і тут кіруючаму класу, уладарам манапалістычнага капіталу прыйдзецца рабіць выбар. Мы пераканаты, — і навука гэта пацвярджае, — што пры цяперашнім узроўні [illegible]алогіі і арганізацыі вытворчасці рэ[illegible]ерсія, дэмілітарызацыя эканомікі магчымыя. Адначасова гэта будзе і выбар на карысць міру.

Тое ж самае — з вынікамі крызісу ў адносінах паміж развітым і развіваючымся светам. Калі справа дойдзе да грані выбуху і акажацца немагчымым далей карыстацца дабротамі за кошт эксплуатацыі «трэцяга свету», пытанне аб непрымальнасці і нецярпімасці сістэмы, якая не здольна без гэтага існаваць, можа стаць у палітычную плоскасць і вельмі востра. Увогуле, і з гэтага пункту погляду капіталізм перад жорсткім выбарам: даводзіць справу да выбуху або лічыцца з законамі ўзаемазвязанага і цэласнага свету, які патрабуе балансу інтарэсаў на раўнапраўнай аснове. І па сітуацыі, як яна бачыцца нам, гэта не толькі неабходна, але і магчыма. Тым больш, што ў такім жа напрамку дзейнічаюць сілы ў самім «трэцім свеце».

Прынята гаварыць аб упадку нацыянальна-вызваленчага руху. Але пры гэтым, відаць, адбываецца падмена паняццяў, ігнараванне навізны сітуацыі. Калі маюць на ўвазе вызваленчы імпульс, той, які дзейнічаў на этапе барацьбы за палітычную незалежнасць, то ён, вядома, слабее. І гэта натуральна. Імпульс жа, неабходны для новага, цяперашняга этапу развіцця «трэцяга свету», толькі-толькі яшчэ фарміруецца. І гэта трэба ясна ўсведамляць і не ўпадаць у песімізм.

Фактары, з якіх складваецца гэты імпульс, разнастайныя і неаднародныя. Тут і магутны эканамічны працэс, які часам прымае парадаксальныя формы. Напрыклад, некаторыя краіны, захоўваючы рысы слабаразвітасці, выходзяць на ўзровень вялікіх дзяржаў у сусветнай эканоміцы і палітыцы. Тут і нарастанне палітычнай энергіі ў ходзе фарміравання нацый і ўмацавання ў сапраўдным сэнсе нацыянальных дзяржаў, сярод якіх істотнае месца займаюць краіны з рэвалюцыйнымі рэжымамі. Тут і гронкі гневу на глебе рэзкай палярызацыі беднасці і багацця, кантрасту паміж магчымасцямі і рэальным становішчам.

У арганізацыях, што адлюстроўваюць працэсы міждзяржаўнай кансалідацыі краін, якія сталі на шлях развіцця, усё больш выражана і актыўна выступае сіла самабытнасці і самастойнасці. У большай або меншай ступені гэта характэрна для ўсіх арганізацый, а іх нямала: Арганізацыя афрыканскага адзінства, Ліга арабскіх краін, АСЕАН, Арганізацыя амерыканскіх дзяржаў, Лацінаамерыканская эканамічная сістэма, Паўднёваціхаакіянскі форум, Асацыяцыя рэгіянальнага супрацоўніцтва Паўднёвай Азіі, Арганізацыя ісламскай канферэнцыі і асабліва — рух недалучэння.

Яны адлюстроўваюць калейдаскоп супярэчлівых інтарэсаў, патрэбнасцей, запатрабаванняў, ідэалогій, прэтэнзій і забабонаў іменна данага этапу. Усе яны, хоць ужо сталі прыметным фактарам сусветнай палітыкі, яшчэ не раскрылі сваіх магчымасцей. Але патэнцыял тут каласальны, і прадказаць вынікі нават на бліжэйшае паўстагоддзе цяжка.

Ясна адно—гэта цэлы свет, які шукае арганізацыйныя формы свайго дзейснага, раўнапраўнага ўдзелу ў вырашэнні пытанняў усяго чалавецтва. За ім два з палавінай мільярды чалавек. І можна прадугадаць, што сямімільнымі крокамі будзе нарастаць не толькі яго ўздзеянне на сусветную палітыку, але і арыгінальная роля ў фарміраванні сусветнай эканомікі будучыні.

Пры ўсёй магутнасці транснацыянальнага капіталу не ён будзе вызначаць шляхі руху «трэцяга свету», а, хутчэй, сам вымушаны будзе прыстасавацца да незалежнага выбару, які зрабілі або зробяць самі народы. А яны і арганізацыі, іх прадстаўляючыя, жыццёва зацікаўлены ў новым сусветным эканамічным парадку.

І яшчэ адзін немалаважны момант. У рамках уласна капіталістычнага свету развіццё ў апошнія дзесяцігоддзі выклікала да жыцця новыя формы грамадскіх супярэчнасцей і рухаў. Гэта — рухі супраць ядзернай пагрозы, у абарону прыроднага асяроддзя, супраць расавай дыскрымінацыі, супраць палітыкі, якая раскалвае грамадства на ўдачлівых і асуджаных, супраць бедстваў у цэлых прамысловых зонах, стаўшых ахвярай новай капіталістычнай мадэрнізацыі. У гэтых рухах удзельнічаюць мільёны, натхняльнікамі і лідэрамі іх становяцца вядомыя дзеячы навукі і культуры, аўтарытэты нацыянальнага і міжнароднага маштабу.

Устойліва важную ролю ў палітычным працэсе рада краін працягваюць адыгрываць, а дзе-нідзе нарошчваюць свой уплыў сацыял-дэмакратычныя, сацыялістычныя, лейбарысцкія партыі і аналагічныя ім або звязаныя з імі масавыя арганізацыі.

Так што, па ўсіх параметрах — эканамічных, палітычных, грамадскіх — мы можам бачыць, як у сучасным свеце паўсюдна апраўдваецца палажэнне, якое Ленін лічыў адным з самых глыбокіх у марксізме, а іменна: разам з грунтоўнасцю гістарычнага дзеяння будзе расці і аб'ём масы, справай якой яно з'яўляецца. А гэта заўсёды — самая правільная адзнака і самы магутны фактар сацыяльнага прагрэсу, а значыць і міру.

Сапраўды, веліч і навізна нашага часу ў тым, што народы ўсё больш ўзнія і адкрыта прысутнічаюць на авансцэне гісторыі. У іх цяпер такія пазіцыі, якія дазваляюць прымушаць з сабой лічыцца не ў канчатковым выніку, а непасрэдна. Тым самым высвечваецца таксама новая ісціна: для руху гісторыі на рубяжы XX — XXI стагоддзяў больш характэрным становіцца пастаянны выбар. А правільнасць яго залежыць ад таго, як і наколькі ўлічваюцца інтарэсы і думкі мільёнаў, соцень мільёнаў.

Адсюль—і адказнасць палітыкаў. Таму што рэальная палітыка можа быць такой толькі пры ўліку гэтай навізны часу: цяпер чалавечы фактар выходзіць на палітычны ўзровень не як аддалены і больш або менш стыхійны вынік жыцця і дзейнасці людскіх мас і іх намераў. Ён урываецца ў сусветныя справы напрамую. Без разумення гэтага, інакш кажучы,— без новага мыслення, якое апіраецца на сучасныя рэальнасці і волю народаў, палітыка становіцца непрадказальнай імправізацыяй, рызыкоўнай і для ўласнай краіны, і для іншых. У такой палітыкі няма даўгачаснай апоры.

Такія падставы для нашага аптымістычнага погляду ў будучыню, на перспектывы стварэння ўсеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА: РЭВАЛЮЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 2—3-й стар.).**

З гэтым зусім лагічна звязана і наша пазіцыя па пытаннях абароны. Пакуль небяспека вайны захоўваецца, пакуль сацыяльны рэванш застаецца асновай стратэгіі і мілітарысцкіх праграм Захаду, мы і ў далейшым будзем рабіць усё неабходнае для падтрымання абароннай магутнасці на ўзроўні, які б выключаў ваенную перавагу імперыялізму над сацыялізмам.

Таварышы! У гэтыя ўрачыстыя дні мы па вартасці адзначаем заслугі міжнароднага камуністычнага руху. У Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая і да сённяшняга дня захоўвае свой міжнародны імпульс, — крыніца яго жыццястойкасці. Міжнародны камуністычны рух вырастае і развіваецца на глебе сваёй краіны, але ёсць нешта агульнае ў самім абліччы камуніста, да якой бы нацыі ён ні належаў і ў якой бы краіне ні працаваў. Гэта — адданасць ідэі лепшага, камуністычнага грамадства, вернасць працоўным — перш за ўсё рабочаму класу, барацьба за іх карэнныя інтарэсы, за мір і дэмакратыю.

Думаю, што ў гэту нашу гадавіну заслугоўвае быць упамянутым і Трэці, Камуністычны Інтэрнацыянал. Яшчэ трэба будзе аднавіць усю праўду аб ім, напісаць сапраўдную і поўную яго гісторыю. Пры ўсіх недахопах і праліках у яго дзейнасці і якім бы ні быў горкім напамін аб некаторых старонках яго гісторыі, Камінтэрн — частка вялікага мінулага нашага руху. Народжаны Кастрычнікам, ён не толькі стаў школай інтэрнацыяналізму і рэвалюцыйнага брацтва. Ён зрабіў інтэрнацыяналізм практычнай зброяй барацьбы за інтарэсы працоўных, за сацыяльны прагрэс нацый і народнасцей. З яго радоў выйшлі кагорты сапраўдных рыцараў XX стагоддзя, людзей абавязку і гонару, высокага палёту і непахіснай мужнасці, якія хварэлі болем мільёнаў прыгнечаных на ўсёй планеце, пачулі іх кліч і паклікалі іх на барацьбу.

Камуністы першымі забілі трывогу ў сувязі з небяспекай фашызму, першымі ўзняліся на барацьбу супраць яго і былі першымі яго ахвярамі. Яны першыя — з'ехаўшыся з усяго свету — уступілі ва ўзброеную схватку з фашызмам у Іспаніі, першыя ўзнялі сцяг Супраціўлення ў імя свабоды і нацыянальнай годнасці сваіх народаў. І іменна камуністы, перш за ўсё савецкія камуністы, унеслі рашаючы ўклад у сакрушальны разгром фашызму ў другой сусветнай вайне.

І потым, і цяпер з той жа непрымірымасцю і адвагай камуністы — у першых радах супраць усякай рэакцыі і ўсякага цемрашальства. Гэта — людзі легендарнага гераізму і самаахвярнасці. І — не адзінкі, а сотні тысяч, арганізаваных і згуртаваных адзінай воляй, жалезнай дысцыплінай і непадкупнай ідэйнасцю.

Часы Камінтэрна, Інфармбюро і нават часы абавязваючых міжнародных нарад мінулі. Але міжнародны камуністычны рух існуе. Усе партыі поўнасцю і незваротна самастойныя. Мы сказалі аб гэтым яшчэ на XX з'ездзе. Праўда, вызваліліся ад старых прывычак не адразу. Аднак цяпер гэта — бясспрэчная рэальнасць. У гэтым сэнсе XXVII з'езд КПСС таксама стаў рубяжом канчатковым і беспаваротным. Думаю, што мы гэта даказалі на справе ў сваіх адносінах з брацкімі партыямі ў ходзе перабудовы.

Міжнародны камуністычны рух — на перавале, як і сам сусветны прагрэс, яго рухаючыя сілы. Кампартыі шукаюць сваё новае месца ў глыбокіх пераменах на мяжы стагоддзяў. А іх інтэрнацыянальны рух абнаўляецца, згуртоўваючыся павагай да таксама абноўленых норм давер'я, раўнапраўя і шчырай салідарнасці. Ён адкрыты для дыялога, для супрацоўніцтва, для ўзаемадзеяння і для саюза з любымі іншымі рэвалюцыйнымі, дэмакратычнымі і прагрэсіўнымі сіламі.

КПСС не сумняваецца ў будучыні камуністычнага руху — носьбіта альтэрнатывы капіталізму, руху самых адважных і паслядоўных барацьбітоў за мір, за незалежнасць і прагрэс сваіх краін, за дружбу паміж усімі народамі Зямлі.

Таварышы! Парог да сапраўднай гісторыі чалавецтва пераступіла ў 1917 годзе. Аднак мінулыя семдзесят гадоў, эканамічныя ўзрушэнні і сацыяльныя катаклізмы, якія парадзілі фашызм і другую сусветную вайну, «халодную вайну» і гонку ўзбраенняў, пагрозу тэрмаядзернай катастрофы і глабальных крызісаў, сведчаць аб тым, што мінулае ўсё яшчэ працягвае ўчэпіста трымаць значную частку чалавецтва. І ўсё ж час, у якім мы жывём, рубеж XX і XXI стагоддзяў, мы маем права лічыць унікальным як па глыбіні сацыяльных змен, так і па глабальнасці задач, што паўсталі перад народамі Зямлі.

Сёння мы бачым: чалавецтва сапраўды не асуджана вечна існаваць так, як яно жыло да кастрычніка 1917 года. Сацыялізм ператварыўся ў магутную рэальнасць, якая расце, развіваецца. Іменна Кастрычнік, іменна сацыялізм указваюць чалавецтву маршруты, якія вядуць у будучыню, новыя каштоўнасці сапраўды чалавечых адносін. Замест эгаізму — калектывізм. Замест эксплуатацыі і прыгнечання — свабода і роўнасць. Замест тыраніі меншасці — сапраўднае народаўладдзе. Замест стыхійнай і жорсткай гульні грамадскіх сіл — растучая роля розуму і гуманнасці. Замест разладаў, варожасці і войнаў — агульначалавечае яднанне і мір.

Цяперашнія пакаленні — і не толькі ў нашай краіне — адказныя за лёс цывілізацыі і самога жыцця на Зямлі. Ад іх, у канчатковым выніку, залежыць: ці стане пачатак новага тысячагоддзя сусветнай гісторыі яе трагічным эпілогам або натхняючым пралогам у будучыню.

**(Даклад быў выслуханы з вялікай увагай і суправаджаўся апладысментамі).**

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Паважаныя таварышы!**

**Ад імя праўлення і членаў Культурна-спартыўнага таварыства імя А. С. Пушкіна сардэчна віншую вас, вашы сем'і і ўсіх савецкіх людзей з 70-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.**

**Мы, савецкія грамадзяне, якія жывём за межамі нашай Радзімы, далучаемся да ўшанавання вялікага подзвігу, здзейсненага працоўнымі нашай краіны пад кіраўніцтвам Уладзіміра Ільіча Леніна. Мы прыкладзём усе намаганні, каб з годнасцю адзначыць славуты юбілей тут, у Аргенціне, і з нецярпеннем чакаем выступленняў на нашых урачыстасцях савецкіх артыстаў, сустрэч з прадстаўнікамі культурных арганізацый СССР.**

**Барацьба за мір і ўзаемаразуменне паміж народамі, працэс перабудовы, ажыццяўляемы ў Савецкім Саюзе ў інтарэсах далейшага ўмацавання сацыялізму, — гэта наша барацьба і наша надзея. Калі Савецкая Радзіма радуецца, мы таксама радуемся яе поспехам, калі смуткуе з-за тых ці іншых нягод, мы таксама падзяляем гэты смутак.**

**Жадаем вам, дарагія сябры, моцнага здароўя, асабістага шчасця, мірнага неба і вялікіх поспехаў у вашай высакароднай дзейнасці дзеля развіцця культурных сувязей з суайчыннікамі, якія жывуць за мяжой.**

**Старшыня таварыства імя А. С. Пушкіна Яўгеній БОЙКА.**

Аргенціна.

**У Беларускае таварыства «Радзіма» і рэдакцыю газеты «Голас Радзімы».**

**Перш за ўсё хочам выказаць шчырую падзяку за ўвагу і клопат пра нас і дзяцей у час адпачынку ў піянерскім лагеры «Зялёны Бор». Гэта быў незабыўны час. Мы вельмі многа пабачылі і назаўсёды запомнім ваш прыгожы горад Мінск. Няхай ён заўсёды працвітае пад мірным небам, няхай ніколі не паўторацца жахі вайны. Сардэчна ві[illegible]ем вас усіх са знамяналь[illegible] [illegible]адзеяй — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!**

**ЮКІ ДАЕЛЕМАНС і яе бацькі, Наталі ВАЛДЭС, Ефрасіння ЛІТВІН.**

Бельгія.

**Паважаныя работнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Віншуем вас усіх з вялікім святам — 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі! Жадаем усім шчасця, здароўя. Жадаем савецкаму народу поспехаў ва ўсіх галінах жыцця і ў барацьбе за мір на нашай планеце.**

**Члены Цэнтральнага праўлення таварystваў савецкіх грамадзян у Галандыі.**

**Паважаныя супрацоўнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Сардэчна віншуем вас са святам 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Жадаем усяму беларускаму народу моцнага здароўя, дабра і міру на ўсёй планеце! Радасці, шчасця і вялікіх поспехаў ва ўсіх справах!**

**З павагай**

**Валянціна ПОРТЭНГЕН-ТКАЧЭНКА, таварыства «Луна» з Амстэрдама.**

Галандыя.

**Дарагія суайчыннікі, работнікі газеты «Голас Радзімы»!**

**Шчыра дзякую вам за высылку мне газеты, у якой я знаходжу патрэбныя мне матэрыялы для ўзбагачэння ведаў пра Савецкі Саюз увогуле, пра маю Беларусь асабліва. Вялікае вам дзякуй.**

**Сардэчна віншую вас, а ў вашай асобе ўвесь савецкі народ са знамянальнай датай — 70-годдзем Вялікага Кастрычніка. Ад шчырага сэрца жадаю вам поспехаў у пабудове грамадства, якое выступае супраць вайны.**

**Серафім КАЗАК.**

Канада.

**Паважаныя сябры з таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Віншую вас і ўвесь савецкі народ з вялікай юбілейнай датай.**

**Няхай жыве 70-годдзе Вялікага Кастрычніка!**

**Няхай над дзеткамі, якія перад намі так добра танцавалі і спявалі, калі мы былі ў Мінску, і над усім добрым і гасцінным беларускім народам ззяе мірнае сонца!**

**З павагай**

**сакратар ССГ г. Гента Ніна ГАПОН.**

Бельгія.

**Дарагія сябры!**

**Сардэчна віншуем рэдакцыю газеты «Голас Радзімы», а ў вашай асобе ўвесь наш родны беларускі народ са слаўным юбілеем — 70-годдзем Вялікага Кастрычніка! Ад усёй душы жадаем поспехаў у вашай высакароднай працы па ўмацаванню міру, дружбы і культурных сувязей паміж народамі нашай цудоўнай планеты!**

**Сям'я КУПЕРУС-МАРЧАНКІ.**

Галандыя.

**Паважаныя супрацоўнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад імя членаў і сяброў Руска-славянскага культурнага таварыства сардэчна віншуем вас і ўвесь савецкі народ з юбілеем Вялікага Кастрычніка!**

**Жадаем вам, вашым сем'ям і ўсяму савецкаму народу моцнага здароўя, шчасця і міру, а таксама поспехаў у барацьбе за ліквідацыю ядзернай небяспекі і раззбраенне, за ўмацаванне міру і супрацоўніцтва паміж народамі свету.**

**Са шчырай павагай старшыня Уладзімір КАЛЕСНІКАЎ, сакратар Мікалай ХРАНКОЎ.**

Аўс[illegible]ія.

**Клуб «Суайчыннік» віншуе супрацоўнікаў таварыства «Радзіма» і ўвесь савецкі народ з 70-годдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

**Ёсць у гісторыі падзеі, якія ніколі не забудуцца. Такой падзеяй стаў для ўсяго свету дзень 7-га лістапада 1917 года.**

**У гэты святочны дзень мы жадаем нашай Радзіме міру, ажыццяўлення ўсіх пастаўленых перад грамадствам працоўных, навуковых і творчых планаў, працвітання і шчасця!**

**Намеснік старшыні клуба «Суайчыннік» Ала САЛКІНІ.**

Сірыя.

**Паважаныя суайчыннікі! Дарагія сябры ў Беларускім таварыстве «Радзіма», рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», увесь савецкі народ!**

**Ад імя праўлення і членаў аддзела Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі горада Шарлеруа, маёй сям'і і асабіста ад сябе, з вялікай радасцю віншую вас з 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!**

**Ад душы жадаю вам вялікіх творчых поспехаў, радасці ў жыцці, бадзёрасці, а нашай любімай Радзіме — міру і працвітання, поспехаў у той вялікай справе, якую яна пачала, — перабудове ў эканамічнай і сацыяльнай галінах. Мы разумеем, што робіцца гэта для дабрабыту народа, для таго, каб ён жыў яшчэ лепш.**

**Шчырае дзякуй усім супрацоўнікам рэдакцыі за грунтоўную інфармацыю ў газеце «Голас Радзімы» аб жыцці нашай Радзімы. Няхай нашы сяброўскія, культурныя сувязі растуць і мацнеюць!**

**Ведай, наша родная краіна, што сэрцам і душою мы заўсёды з табой.**

**Сакратар аддзела ССГБ г. Шарлеруа Марыя ГАРОХ.**

Бельгія.

**Дарагія сябры!**

**Паважаныя супрацоўнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад імя праўлення і членаў ФРК горада Таронта шчыра віншую вас з 70-й гадавінай Вялікага Кастрычніка. Жадаю нашай Айчыне працвітання, новых поспехаў у справе ўмацавання ўсеагульнага міру, а супрацоўнікам Таварыства і рэдакцыі і ў іх асобе ўсяму савецкаму народу жадаю добрага здароўя, асабістага шчасця і міру на зямлі.**

**Сакратар аддзела ФРК г. Таронта Кацярына ЗВАНАРОВА.**

Канада.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1632